11 лістапада 2016 | № 43 (508)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Размаўляйце па-ўкраінску! стар. 8











# Ні холадна, ні горача

## Пасол ЗША ў Беларусі хутка не з'явіцца



Сяргей ПУЛЬША

Выбары ў ЗША, якімі быў заклапочаны ўвесь свет, нарэшце прайшлі. Амерыка «падбівае вынікі», а той самы свет варожыць, якой будзе палітыка Злучаных Штатаў у дачыненні да іх. Не выключэнне тут і Беларусь.

Апошнімі часамі абодва бакі — як Злучаныя Штаты, так і Сінявокая — прыклалі даволі шмат намаганняў, каб выйсці ў двухбаковых адносінах з таго стану глыбокай замарозкі, якая доўжыцца амаль дзесяцігоддзе.

Нагадаем, у 2004-м у ЗША быў прыняты «Акт пра дэмакратыю ў Беларусі», які патрабуе спынення ў краіне рэпрэсій супраць іншадумцаў і ўводзіць санкцыі супраць некаторых галінаў беларускай эканомікі. Цікава, што згодна гэтаму дакументу прадстаўнікі ЗША ў МВФ павінны галасаваць супраць надання Беларусі крэдытаў з гэтай структуры.

З-за рэпрэсій на выбарах 2006 года ў 2007-м пад санкцыі патрапіў канцэрн «Белнафтахім» — «цяжкавагавік» у гандлі з ЗША. У дадатак пэўныя дзяржпрадпрыемствы і банкі былі зацікаўлены ў парушэнні міжнароднага эмбарга адносна Ірана, і таксама ўвайшлі ў «санкцыйны спіс». У адказ Мінск значна скараціў сваё дыппрадстаўніцтва ў Вашынгтоне і запатрабаваў парытэтнага скарачэння дыпмісіі ЗША ў Беларусі. У сакавіку 2008 года колькасць супрацоўнікаў пасольства Злучаных Штатаў была скарочана з 35 чалавек да 5, Мінск па патрабаванні беларускага боку пакінула пасол Карэн Сцюарт. З тых часоў пасла ЗША ў краіне няма.

У выніку ў Беларусі выдаюцца толькі «тэрміновыя» візы ў ЗША. Па ўсе іншыя трэба ехаць туды, дзе ёсць паўнавартаснае пасольства, — Вільнюс, Кіеў, Варшаву або Маскву.

Аднак усё цячэ, усё змяняецца. З 2014 года адносіны цяплеюць. Вашынгтон ацаніў міратворчую дзейнасць уладаў Беларусі ў расійска-ўкраінскай вайне і зняў санкцыі з некаторых беларускіх прадпрыемстваў. Аўтаматычна зняліся санкцыі з тых, хто патрапіў пад іх праз супрацоўніцтва з Іранам — калі эмбарга з Ірана было знятае.

Пасля гэтых крокаў афіцыйны Мінск пагадзіўся дадаць яшчэ аднаго чалавека ў штат пасольства ЗША, вынікам чаго быў пашыраны спіс візавых паслуг. У чэрвені гэтага года кіраўніцтва Беларусі пагадзілася і на сёмага супрацоўніка дыпмісіі ЗША — эканамічнага дарадцу. Крыху раней, у лютым, Часовы паверены ў справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд агучваў, што аднаўленне паўнавартаснай працы пасольства «абмяркоўваецца і ў Вашынгтоне, і ў Мінску».

Далей за амерыканцаў пайшоў, канешне ж, Аляксандр Лукашэнка. Падчас галасавання на парламенцкіх выбарах 11 верасня ён заявіў, што «пасол (ЗША ў Мінску) абавязкова будзе». «Мы пра гэта, у прынцыпе, дамовіліся. Я думаю, што пасля выбараў у ЗША мы вырашым гэтую праблему».

Аптымізму Аляксандра Рыгоравіча можна пазайздросціць, але эксперты яго не падзяляюць. «Не трэба думаць, што ў Дональда Трампа, які стаў прэзідэнтам ЗША, у кабінеце будзе такі ж глобус, як у Аляксандра Лукашэнкі, і што ён неяк заклапочаны Беларуссю, — кажа міжнародны аглядальнік Раман Якаўлеўскі. — Выбары амерыканскага прэзідэнта на Беларусі не адаб'юцца ніяк».




Наконт аднаўлення ў нашай краіне працы пасла ЗША, Якаўлеўскі зазначае, што гэты працэс ідзе, але падкрэслівае, што ён — не хуткі: пасла павінны абраць, зацвердзіць і гэтак далей. «Гэта вельмі доўгая працэдура ў ЗША», — кажа эксперт. Але «трэнд на наладжванне адносінаў ёсць, і я лічу пазітыўнай і важнай падпісаную нядаўна заяву пра ваеннае супрацоўніцтва Беларусі і ЗША», кажа Якаўлеўскі.

З Актам пра дэмакратыю ў Беларусі ўсё яшчэ больш складана, чым з паслом. «У свой час Аляксандр Лукашэнка здзейсніў выдатнае палітычнае дасягненне — гэта першы закон, спецыяльна па Беларусі, у гісторыі ЗША, прыняты аднагалосна. Я не думаю, што так проста будзе яго прыбраць, тым больш, што прычыны, якія яго спарадзілі, у Беларусі не ліквідаваныя», — адзначае міжнародны аглядальнік.

> **У бліжэйшай перспектыве статус-кво ў адносінах Беларусі і ЗША захаваецца**

«Я не бяруся сказаць, што новы прэзідэнт адзначыць свой тэрмін такім дзеяннем, як адмена Акта пра дэмакратыю. Тым больш, што ён мае свае асаблівасці, ён дзейнічае не поўнасцю. Некаторыя артыкулы з яго ўключаюць, некаторыя — выключаюць», — кажа Якаўлеўскі. І ад асобы кіраўніка ЗША ў гэтым дакуменце не вельмі шмат што і залежыць, бо прымае яго Кангрэс, а прэзідэнт толькі падпісвае.

Не чакае хуткіх зменаў у ЗША ў адносінах да Беларусі і паліталаг Валер Карбалевіч. «Хто б ні перамог у Злучаных Штатах, яго першыя праблемы — зусім не Беларусь. У новага прэзідэнта будзе шмат іншых праблем і пытанняў, і да Беларусі, калі тут, зразумела, нічога экстраардынарнага не здарыцца, чарга дойдзе вельмі не хутка. Таму ў дачыненні да Беларусі будзе пэўная сіла інерцыі, і пакуль не падыдуць тэрміны, ніхто не будзе гэтыя пытанні ўздымаць», — лічыць Карбалевіч.

Змяніць сітуацыю, па меркаванні Карбалевіча, можа толькі беларускі бок. «Калі б у Беларусі, напрыклад, раптам настала поўная дэмакратыя, то рэакцыя амерыканскага ўрада была б адпаведная. Але чакаць дэмакратыі бліжэйшым часам не выпадае, і таму, я думаю, у кароткатэрміновай перспектыве статус-кво ў адносінах Беларусі і ЗША захаваецца», — адзначае эксперт.

# Адпусціць Барбашынскага пад падпіску аб нявыездзе

Зінаіда ЦІМОШАК

**Павел Левінаў, сябра Рады РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт», лічыць, што суд Слуцкага раёна павінен змяніць для Івана Барбашынскага меру стрымання.**

Задпаведнай просьбай праваабаронца звярнуўся ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь.

На думку праваабаронцы, знаходжанне Івана Барбашынскага пад вартай супярэчыць міжнародным абавязкам і заканадаўству Рэспублікі Беларусь, парушае яго правы, не выклікана неабходнасцю і супярэчыць прынцыпам чалавечнасці і гуманізму.

Праваабаронца нагадвае Вярхоўнаму суду таксама пра правы і абавязкі, якія вынікаюць з Міжнароднага Пакту аб правах чалавека.

Згодна часткі 3 артыкула 9 Пакту, утрыманне пад аховай асобаў, якія чакаюць судовага працэсу, не павінна быць агульным правілам, а вызваленне можа быць пастаўлена ў залежнасць ад прадстаўлення гарантый яўкі на суд, судовае разбіральніцтва ў любой стадыі.

У звароце на імя Вярхоўнага суда Павел Левінаў піша, што злачынства, якое інкрымінуецца Івану Барбашынскаму, не адносіцца да катэгорыі цяжкіх. Да таго ж Іван мае сталае месца жыхарства, ён з'яўляецца сацыяльна адаптаваным чалавекам. Знаходзіцца за кратамі да суда пасля смерці брата пры нявысветленых абставінах у гэтай жа турме (на трупе знойдзены 17 сінякоў і рубцы на галаве) — яшчэ адно незаслужанае цяжкае пакаранне.

«Матэрыялы справы не ўтрымліваюць доказаў таго, што Барбашынскі Іван можа збегчы ад суда, перашкодзіць правасуддзю альбо займацца супрацьпраўнай дзейнасцю, — лічыць праваабаронца. — У той жа час Івана Барбашынскага прыводзілі ў суд у кайданах, ён утрымліваецца ў зале судовага працэсу ў клетцы, што парушае яго прэзумпцыю на невінаватасць і на камунікацыю з абаронцам».

Таксама Павел Левінаў прыводзіць аналагічныя прыклады з практыкі беларускіх судоў, калі людзі, якія здзейснілі больш цяжкія злачынствы, не ўтрымліваліся пад вартай.

Іван Барбашынскі ўтрымліваецца да суда пад аховай у Жодзінскім СІЗА №8 з 8 чэрвеня 2016 года. Судовы працэс над братамі Барбашынскімі быў прыпынены ў канцы жніўня з прычыны запатрабавання адвакатам дадатковых экспертыз па справе.

Адвакат Івана Барбашынскага ўжо 4 разы звярталася да суддзі Слуцкага раёна Юліі Паўленка з просьбай аб замене меры ўтрымання на падпіску аб нявыездзе. Нягледзячы на трагічную смерць у турме старэйшага брата, Іван паранейшаму чакае працягу судовага працэсу ў гэтай жа турме.

Калі аднавіцца судовы працэс — пакуль не вядома.

# Сезон скаргаў Андрэя Бандарэнкі

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Пасля накладання спагнання 30 верасня вязень сумлення Андрэй Бандарэнка выказаў сваю нязгоду ў форме скаргі. І хоць надзей на поспех няма, ён працягвае змагацца за свае правы і справядлівасць.**

Як вынікае з ліста Андрэя, атрыманага 24 кастрычніка, самым сумным фактам з турэмнага жыцця ён лічыць тое, што яго не збіраюцца здымаць з прафілактычнага ўліку як «схільнага да нападу» на супрацоўнікаў адміністрацыі Магілёўскай турмы, дзе ён знаходзіцца. І гэта нягледзячы на тое, што прайшло ўжо больш за год пасля накладання спагнанняў, якія сталі падставай для такога рашэння.

Бандарэнка напісаў, што, знаходзячыся на турэмным рэжыме, упадае ў беднасць. У яго скончыліся сшыткі, фарматныя лісты, а таксама стрыжні. У месяц яму дазваляецца расходаваць не больш за 21 рубель (на фоне таго рацыёну харчавання, аб якім распавялі, пабыўшы ў Магілёўскай турме, Генадзь Давыдзька і Ірына Дарафеева, а потым — удакладнілі «сядзельцы» той жа ўстановы Мікалай Статкевіч і Мікалай Дзядок).

Яшчэ адна праблема, з якой даводзіцца сутыкацца Бандарэнку, — перыядычнае затрыманне і канфіскацыя лістоў. Ён ніяк не можа прыстасавацца да спецыфічных патрабаванняў турэмных цэнзараў: што можна пісаць, а што нельга. Апошні ліст яму давялося перапісваць — «чысціць», як і папярэдняе. Усялякія ўкладанні на яго адрас таксама старанна цэнзуруюцца, нават ксеракопіі газетных публікацый.

Тым не менш, Бандарэнка ўсцешаны з таго, што зварот ад яго імя пайшоў у Камітэт ААН па правах чалавека. Ён піша, што для яго гэта «важны крок да аднаўлення сваіх правоў». Пры гэтым ён не сумняваецца, што «…блізка час, калі сітуацыя ў краіне зменіцца, і шматлікім суддзям, пракурорам і іншым «сілавікам» прыйдзецца даць тлумачэнні».

Бандарэнка перадае ўсім прывітанні, асабліва Міхаілу Жамчужнаму, за якога вельмі перажывае.

# Адчуць смак Еўропы і атрымаць інвестыцыі

Аксана КОЛБ

**У Мінску прэзентавалі чарговы этап трохгадовай польскай праграмы «Смакі Еўропы: якасць і традыцыі». Яе фінансаванне пароўну ажыццяўляюць Еўрасаюз і Польшча.**




Праграма, якая распачалася ў чэрвені гэтага года, накіраваная на прасоўванне польскіх прадуктаў на беларускі рынак, але не толькі. Як адзначыў дзяржсакратар Міністэрства сельскай гаспадаркі і развіцця вёскі Польшчы Рышард Заруцкі, галоўная тэма прэзентаванай часткі праграмы — гандаль і інвестыцыі.

Дзяржсакратар разам з групай зацікаўленых польскіх прадпрымальнікаў прыняў удзел у выставе «Прадэкспа–2016», якая праходзіла ў Футбольным манежы з 8 па 11 лістапада. Таксама ён сустрэўся з намеснікам міністра сельскай гаспадаркі Беларусі Уладзімірам Гаркуном, з якім былі абмеркаваныя далейшыя шляхі супрацоўніцтва, у тым ліку ліквідацыя бар'ераў на шляху польскіх тавараў на беларускі рынак.

Бар'еры гэтыя перш за ўсё тычацца імпарту ў Беларусь мінеральных дабавак да кармоў, доступу на беларускі рынак польскай ялавічыны, у тым ліку бескасцёвай, а таксама паставак свініны. Па словах польскага чыноўніка, дамоўленасці на гэты конт дасягнутыя.

Таксама важны складнік праграмы «Смакі Еўропы» — экспертнае супрацоўніцтва. Палякі гатовыя падзяліцца новымі тэхналогіямі, у тым ліку тэхналогіямі ў галіне вырошчвання і перапрацоўкі сельгаспрадукцыі. А тэхналогіі гэтыя, па словах прэзідэнта Агенцтва аграрнага рынку Польшчы Лукаша Халубоўскага, за гады сяброўства ў Еўрасаюзе дасягнулі ўзроўню касмічных.

Паводле еўрапейскіх даследаванняў, сёння польская сельская гаспадарка знаходзіцца на найвышэйшым тэхналагічным узроўні ў Еўропе. І пры гэтым тэхналогіі ідуць разам з высокай якасцю і традыцыямі вытворчасці прадуктаў. Менавіта гэта спалучэнне тэхналогій і традыцыйнай якасці, па словах спадара Халубоўскага, дазваляе Польшчы пастаўляць прадукцыю сельскай гаспадаркі ў 98 краін свету.

Беларусь таксама ў ліку гэтых краін. І польскі бок гатовы да яшчэ больш шчыльнага супрацоўніцтва. Аднак для польскіх інвестараў вельмі важным ёсць гарантаванасць бяспекі ўкладанняў.

«Мы хацелі б ад Беларусі гарантый нашых інвестыцый. У мяне ёсць вопыт інвестыцый у Расію і Украіну, там я страціў грошы, — адзначыў старшыня польскай Асацыяцыі мяснікоў і вытворцаў каўбасных вырабаў Збігнеў Новак. — Не хацелася б губляць яшчэ раз і ў Беларусі. Для мяне важная дзяржаўная ўрадавая праграма гарантый інвестыцый. Таму што на маіх прадпрыемствах некаторыя вытворчыя магутнасці прастойваюць, і мы маглі б унесці іх у статутны фонд сумеснага прадпрыемства ў Беларусі».

Яшчэ пра адзін бок супрацоўніцтва ў рамках праграмы «Смакі Еўропы» распавёў пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Конрад Паўлік. Гаворка пра прыцягненне на кароткачасовы перыяд (ад аднаго да шасці месяцаў) працоўнай сілы з Беларусі.

Для гэтага неабходна стварыць канкрэтную структуру, якая б акумулявала заяўкі ад польскіх вытворцаў на працаўнікоў з Беларусі і займалася іх пошукам. Ужо ёсць польскія кампаніі, якія хацелі б стаць такімі пасярэднікамі. «Мы высвятляем, якая працэдура атэстацыі і сертыфікацыі для гэтага патрабуецца ў Беларусі», — паведаміў Конрад Паўлік.

Па словах кіраўніка праграмы «Смакі Еўропы», прэзідэнта Асацыяцыі мяснікоў і вытворцаў каўбасных вырабаў Польшчы Пятра Зэмана, апытанні польскіх прадпрымальнікаў паказваюць, што сярод прыярытэтаў супрацоўніцтва яны называюць менавіта Беларусь. Беларусь, дарэчы, і самы вялікі спажывец польскіх прадуктаў па-за межамі Еўрасаюза.

Але, падкрэсліў, польскі бок чакае ад беларускага зняцця гандлёвых бар'ераў, гарантый бяспекі інвестыцый і супрацы ў пытаннях трансферу працоўнай сілы. Ці гатовыя беларускія ўлады да рэальных крокаў у гэтым накірунку, пакажа час.

# Патрэбна дапамога Леаніду Маракову

**Пісьменнік Леанід Маракоў знаходзіцца ў цяжкім стане: у яго пухліна мозга. У сацыяльных сетках людзі абмяркоўваюць, чым можна дапамагчы, каб зменшыць пакуты гэтага выбітнага чалавека.**

Наталля Саматыя піша ў фэйсбуку: «Дарагія сябры! Па-першае, вялікі дзякуй Алесю Макаеву, які сёння зрабіў добрую справу па доглядзу за Леанідам: падмыў, усаджваў, праводзіў гігіенічныя працэдуры, карміў, паіў з бутэлечкі, перасцілаў ложак.

Дзень, паверце, быў вельмі цяжкі. У лёгкіх Леаніда застой, не мог адкашляцца, амаль увесь час крычаў, цяжка зразумець, што хоча. Убачылі пролежні. Крычу: «Тэрмінова! Патрэбныя памперсы, вільготныя сурвэткі, і трэба наняць сядзелку… Прабачце, у мяне няма такіх грошай. Давайце дапаможам разам!»

Каб сабраць грошы на аплату сядзелкі для Леаніда Маракова Наталля Саматыя завяла картку: МТБ-Банк 5351 0410 8976 2734 да 02|19.

Па словах Вадзіма Пракопчыка, «цяпер гэтаму нашаму з вамі выбітнаму суайчынніку патрэбныя не спачуванні, а пазітыўныя візіцёры і галоўнае — дастойны і рэгулярны дагляд. І не трэба наракаць, што нехта некаму нешта павінны — мы з вамі дарослыя людзі. Не маю вопыту з сядзелкамі, але я так разумею, што гэта можа быць проста наняты чалавек (ці два), які будзе некалькі разоў (колькі?) прыязджаць да яго і рабіць неабходную работу. Калі не так, дайце параду як гэта правільна арганізаваць».

Леанід Маракоў — беларускі пісьменнік, журналіст, гісторык, энцыклапедыст. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, праваабаронца сябра міжнароднага ПЭН-клуба, даследчык рэпрэсій савецкіх уладаў супраць беларускага, польскага, яўрэйскага народаў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вялікае перасяленне народаў

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Нарэшце беларускія ўлады ўцямілі, што рабіць са стратнымі прадпрыемствамі. Пасля праведзеных мадэрнізацый з глыбокай багны можа выйсці шматпакутнае мінскае ААТ «Камволь». Варта адзначыць, што кіраўніцтва змагалася за гэта прадпрыемства дзесяцігоддзямі, а вынікі былі амаль нулявыя.**



Фота www.3world-war.su

Намеснік прэм'ера Уладзімір Сямашка на пасяджэнні мастацка-тэхнічнага савета ААТ паведаміў, што на прадпрыемства плануецца запрасіць спецыялістаў-тэхнолагаў адной з вядучых турэцкіх кампаній, якія «навучаць нашых тэхнолагаў атрымліваць максімум ад усталяванага абсталявання як з пункту гледжання прадукцыйнасці, так і з пункту гледжання якасці».

У сваю чаргу намеснік старшыні канцэрна «Беллегпрам» Мікалай Рагожнік праінфармаваў, што ў цэлым мадэрнізацыя на «Камволі» завершана. «Абсталяванне — самае сучаснае, яно адпавядае ўсім сусветным стандартам. Цяпер ідзе напрацоўка новых рэцэптур тканін, ствараецца калекцыя. Над гэтым працуюць дэсінатары сумесна з маркетынгавымі службамі», — адзначыў ён.

Па словах кіраўніка канцэрна, магутнасці прадпрыемства, якія складаюць 6 мільёнаў пагонных метраў у год, дастатковыя для таго, каб цалкам закрыць патрэбы ўнутранага рынку і экспартаваць істотныя аб'ёмы прадукцыі. «Разам з тым, неабходна адзначыць досыць сур'ёзную канкурэнцыю з боку турэцкіх, кітайскіх вытворцаў. Таму прадпрыемству важна працаваць над зніжэннем сабекошту, шукаць рынкі збыту», — кажа Рагожнік.

Сапраўды, мала паставіць на прадпрыемстве новае сучаснае абсталяванне — трэба навучыць працоўных ім карыстацца. Мала навучыць працоўных ім карыстацца — трэба падумаць, што ствараць. І, галоўнае — створанае прадаць. Пажадана, з выгадай для сябе.

Паглядзім, ці атрымаецца ў чарговы раз рэанімаваць «Камволь». Вялікія праблемы могуць узнікнуць менавіта з апошняй часткай — продажам прадукцыі. Як паведамляе Белстат, з пачатку года ў Беларусі закрыліся на 4,5 тысячы індывідуальных прадпрымальнікаў больш, чым з'явілася.

У студзені-верасні па ўсёй краіне спынілі сваю дзейнасць 31 249 ІП. Для параўнання — за ўвесь 2015 год у Беларусі адкрылася 41 772 ІП, а тых, хто спыніў сваю дзейнасць, было больш толькі на 73 чалавекі. У цэлым па краіне за год колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў скарацілася на 19,9 працэнта.

Гэтыя гандляры з задавальненнем бралі б на рэалізацыю «беларускае турэцкае», не ездзячы ў Турцыю або Маскву. Аднак указ №222 не пакінуў ім выбару.

Але што цікава: пры тым, што толькі ІП закрылася 30 тысяч, у дзяржаўную службу занятасці за 9 месяцаў 2016-га звярнулася ўсяго 20 тысяч чалавек. А зараз, на грунце гэтых лічбаў, паспрабуйце вылічыць аб'ём «ценявой эканомікі» ў краіне.

А можа, і не ценявой. Аказваецца, з радасцю і абдымкамі нашых грамадзян чакаюць дзе заўгодна — толькі не ў роднай краіне. 8 лістапада на прэс-канферэнцыі, прысвечанай праграме прасоўвання польскай прадукцыі «Смакі Еўропы: якасць і традыцыі», пасол Польшчы ў Беларусі Конрад Паўлік зазначыў, што хацеў бы бачыць больш беларусаў у Польшчы. Па яго лічбах, легальна ў Польшчы працуе 611 тысяч украінцаў, 9 тысяч малдаван і толькі 7 900 беларусаў. «Мы гатовыя прымаць на кароткачасовы перыяд (ад аднаго да шасці месяцаў) не толькі ў сельскую гаспадарку, але і ў іншыя галіны эканомікі грамадзян іншых краін, у тым ліку Беларусі», — адзначыў кіраўнік дыпмісіі.

Па словах Паўліка, кожны дзень у польскае пасольства ў Мінску паступаюць запыты ад працадаўцаў, прадстаўнікоў розных кампаній наконт работнікаў з Беларусі для кароткачасовай працы ў Польшчы ў сферы вытворчасці, сельскай гаспадаркі і паслуг.

Ён адзначыў, што «ёсць вялікі попыт у Польшчы, у тым ліку на працаўнікоў з Беларусі. Калі будзе такая ж зацікаўленасць і з беларускага боку, каб арганізаваць усё гэта сістэмна, мы гатовыя да супрацоўніцтва».

Такім чынам, з Беларусі адбываецца ўцечка не толькі белых каўнерыкаў, але і звычайных працоўных. Хто будзе вырабляць прадукцыю на той жа «Камволі»? Туркі?

Ну і прыемная навіна на заканчэнне. Усім памятны выпадак гомельскага ўрача, у якога канфіскавалі ўласны бар з 178 бутэлькамі алкаголю. Тады высветлілася, што ёсць ліміт — 15 літраў на чалавека. Зараз тыя, хто затавароўваецца да святаў, могуць не турбавацца. Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт, згодна з якім алкаголю можна захоўваць колькі заўгодна (для ўласнага спажывання, зразумела).

Але пры гэтым застаецца абмежаванне на перавоз алкаголю — толькі пяць літраў. За парушэнне гэтага ўсталявана адміністрацыйная адказнасць — штраф ад 10 да 100 базавых велічынь з канфіскацыяй алкагольных напояў, якія перавышаюць дазволеную да перамяшчэння колькасць, або без канфіскацыі. За паўторны на працягу года перавоз алкаголю прадугледжваецца магчымасць канфіскацыі транспартных сродкаў, якія выкарыстоўваюцца для перамяшчэння такога алкаголю, незалежна ад таго, у чыёй уласнасці яны знаходзяцца.

З аднаго боку, добра. З іншага — не вельмі. Бо, калі браць на вялікаю кампанію, скажам, 20 літраў піва — гэта ўжо звыш нормы. І дагэтуль не вядома, што рабіць на вяселлі і памінанні, калі, зазвычай, алкаголь перасоўваецца ў вялікіх колькасцях.

Беларусам зноў прыйдзецца выкручвацца. Альбо з'язджаць у Польшчу, дзе такіх дурных законаў няма. Але хто тады застанецца працаваць тут? Ці сапраўды туркі з кітайцамі?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Зміцер Дашкевіч

**З ініцыятывы актывіста было фактычна сарвана ўрачыстае адкрыццё помніка Леніну каля мінскага Трактарнага завода.**

Чацвёра дэмакратычных актывістаў — сам Зміцер Дашкевіч, Сяргей Пальчэўскі, Арцём Леўчанка і Раман Ганчароў — выйшлі з натоўпу ўдзельнікаў і пачалі крычаць: «Ганьба!»

Асобы ў цывільным адразу ж адвялі ўбок кіраўніка беларускіх камуністаў і намесніка старшыні Мінгарвыканкама Ігара Карпенку. З крыкам «Ленін, партыя, камсамол!» на актывістаў кінуўся другі сакратар БРСМ Сяргей Клішэвіч. Дэмакратычных актывістаў затрымалі супрацоўнікі АМАП. Дашкевіча тры міліцыянты неслі да машыны. Пасля гэтага здарэння для прыгаломшанага натоўпу ўключылі «Гімн Усебеларускага народнага сходу» ў выкананні Аляксея Хлястова.

Усе затрыманыя выйшлі з пастарунку ўвечары таго ж дня. На Дашкевіча склалі тры пратаколы: за «ўдзел у несанкцыянаванай акцыі», «хуліганства» і «непадпарадкаванне міліцыі». «У міліцэйскім аўтобусе мяне збівалі. Калі я пачаў маліцца, тыцкалі дубінкай у зубы. Усе гэтыя іх дзеянні я зафіксаваў у пратаколах», — сказаў Дашкевіч, і на наступны дзень падаў скаргу на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі ў Першамайскі РУУС Мінска.

Раней помнік знаходзіўся ва ўнутраным двары МТЗ, некалькі гадоў быў на рэстаўрацыі, а цяпер «па просьбах ветэранаў і камуністаў» яго паставілі ля прахадной завода.



## Уладзімір Кондрусь

**Суд над фігурантам «Плошчы–2010» адбудзецца праз амаль шэсць гадоў.**

Працэс пачнецца 16 лістапада ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. Справу будзе разглядаць суддзя Святлана Бандарэнка.

Жыхар пасёлка Рудзенск Уладзімір Кондрусь быў узяты пад варту 14 чэрвеня ў межах папярэдняга расследавання яго меркаванага ўдзелу ў падзеях каля Дома ўрада падчас выбараў прэзідэнта ў 2010 годзе. Ён абвінавачваецца па артыкуле 293 КК РБ «Масавыя беспарадкі», па якім у 2011 годзе было асуджана 49 чалавек. На час следства ён утрымліваецца ў СІЗА.

Бацькі, сястра і адвакат Уладзіміра не могуць распавесці падрабязнасці справы – яны далі падпіску аб неразгалошванні. Сам Уладзімір амаль два месяцы трымаў галадоўку, пасля чаго стан яго здароўя моцна пагоршыўся: ён нават не мог самастойна хадзіць.

Праваабарончая супольнасць Беларусі прызнала Кондруся палітычным зняволеным і патрабуе спынення крымінальнага пераследу ў дачыненні да яго і неадкладнага вызвалення з-пад варты.



## Святлана Алексіевіч

**Нобелеўская лаўрэатка па літаратуры працягвае ахвяраваць сваю прэмію на дабрачыннасць.**

Святлана Алексіевіч перадала тысячу долараў на лячэнне цяжкахворага Леаніда Маракова — вядомага ў Беларусі даследчыка сталінскіх рэпрэсій.

Тэрміновы збор сродкаў у дапамогу хвораму на рак Леаніду Маракову абвясцілі валанцёры. Унёсак Алексіевіч дапамог перавесці даследчыка з хоспісу ў мінскі Дом міласэрнасці, дзе Маракову забяспечваецца прымальны догляд.

Алексіевіч таксама ахвяравала 5 тысяч долараў на стварэнне музея Алеся Адамовіча ў Глушы.

«Алесь Адамовіч — беларускі Вацлаў Гавэл. Ягонае імя вартае ўвекавечвання. Ідэю стварэння музея я падтрымліваю і буду ў гэтай справе ўдзельнічаць», — зазначыла Святлана Алексіевіч.

Яшчэ раней нобелеўская лаўрэатка зрабіла першы ўнёсак за кватэру для сям'і Любові і Васіля Равенькаў і іх 6 дзяцей, пра гісторыю якіх даведалася з публікацыі на «Радыё Свабода».

«Я лічу, што кожны з нас мог бы выратаваць аднаго-двух чалавек. І гэта была б вялікая справа», — сказала Алексіевіч.







**Навучыўшыся працаваць з грамадствам, апазіцыя не ўмее піярыць свае дасягненні. Але, калі глядзець рэтраспектыўна, аказваецца, што гэтых дасягненняў даволі багата**

# Слабая і раз'яднаная? А што зрабілі вы?

Сяргей ПУЛЬША

**Ужо набіла аскому чуць ад усялякіх сеткавых экспертаў нараканні на беларускую апазіцыю. Слабая, нягеглая, заціснутая, непрыгожая, на яе акцыі прыходзяць лічаныя сотні чалавек, яна хранічна не здольная аб'ядднацца — ажно да таго, што лепш бы ёй самараспусціцца.**

Але давайце ўявім: сёння апазіцыя самараспускаецца. Дзе мы прачнёмся заўтра? Зразумела, у іншай краіне. І называцца гэтая краіна будзе Расіяй.

## На варце Незалежнасці

Як ні дзіўна, але беларуская апазіцыя, пры ўсёй яе раз'яднанасці і іміджы «лузераў», навучылася адной фундаментальнай рэчы — яна стварае трэнды ў грамадстве. І гэтыя трэнды потым так ці інакш адбіваюцца на дзеяннях улады і на нашым жыцці.

Не так даўно стала вядома, што расійскія самалёты Су-27СМ, якія са снежня 2013 года атабарыліся ў Баранавічах, пакінулі Беларусь. Пакінулі даўно, і бачна па ўсім, надоўга, калі не назаўсёды. Прынамсі, выданне «Bellingcat», якое спецыялізуецца на расследаваннях з адкрытых крыніцаў інфармацыі, піша, што на спадарожнікавых здымках расійскіх «Сушак» на аэрадроме Баранавічаў не бачна з мая гэтага года.

Фактычна, гэта азначае, што Расія калі не адмовілася, дык надоўга замарозіла праект стварэння ў Беларусі сваёй авіябазы. І адклікала нават тыя самалёты, якія ўжо атабарыліся ў нашай краіне.

Пры чым тут апазіцыя? Ды пры тым, што не ў малой часткі дзякуючы ёй гэтая база не з'явілася. Калі перадыслакацыя «Сушак» яшчэ толькі пачыналася, у снежні 2013-га, сябры АГП выходзілі на пікеты да Камароўскага рынку з плакатамі «Расія — гэта вайна!». Тэма поўнага нейтралітэту Беларусі, у тым ліку адсутнасці замежных вайсковых базаў, была адной з асноўных у кампаніі «Народны рэферэндум», куды ўваходзілі Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», кампанія «Гавары праўду» і прымкнулая да іх БСДП (Грамада). У самой ПБНФ тэма супрацьдзеяння стварэнню расійскай авіябазы ў Беларусі ўвесь 2014 год была цэнтральнай.

Праз розныя круглыя сталы і брыфінгі з удзелам вайсковых экспертаў народу даводзілася, што гэты вайсковы аб'ект Беларусі непатрэбны, і складае рознага кшталту пагрозы: ад экалагічнай, бо авіяпаліва ў гэтым плане небяспечнае, да вайсковай, бо база з'яўляецца мэтай першага ракетнага ўдару.

Дый кампанія Таццяны Караткевіч на прэзідэнцкіх выбарах працэнтаў на сорак складалася менавіта з крытыкі авіябазы.

У выніку агульных намаганняў грамадская думка схілілася ў бок непрымання гэтага аб'екту на тэрыторыі краіны. Як следства, Аляксандр Лукашэнка ў час перадвыбарчай кампаніі заявіў, што ні з кім ні пра якія базы ён не дамаўляўся, размовы пра гэта ніколі не ішло, і ён пра гэта нічога не ведае.

Калі б не дзеянні «слабой і раз'яднанай апазіцыі», у грамадстве наўрад ці б узнікла дыскусія наконт авіябазы, і наўрад ці б Аляксандр Рыгоравіч у гэтым пытанні «здаў назад». Але кіраўнік Беларусі, як палітык, усё ж адчувае настроі народа і вымушаны быў адрэагаваць так, як склалася думка ў грамадстве.

## «Русский мир»

Пасля ўкраінскіх падзеяў самымі паспяховымі акцыямі беларускай апазіцыі можна назваць тыя, якія былі скіраваныя на супрацьдзеянне «рускаму міру». Шляхам петыцый і пратэстаў у Мінску была сарваная сустрэча ідэолага «русского мира» Мікалая Старыкава. Планавалася, што апалагет ДНР/ЛНР будзе чытаць лекцыі ў кніжнай краме «Светач» і гатэлі «Беларусь». Аднак, пасля прыцягнення ўвагі да Старыкава, дзяржаўныя ўстановы адмовіліся даваць яму памяшканні. Сустрэчу ўдалося арганізаваць толькі ў «Доме Масквы». Але і туды прасачыліся маладафронтаўцы з заклікам: «Чамадан — вакзал — Расія».

У маі гэтага года журналісты «Нашай Нівы» дакапаліся да вайсковых лагераў у Падмаскоўі, дзе беларускіх дзяцей навучалі «патрыятызму» сепаратысты з ДНР, у прыватнасці Аляксей Мільчакоў. Зразумела, гэта ўзрушыла дэмакратычную грамадскасць, адразу ж пайшлі лісты пратэсту і запыты ў МУС, КДБ і пракуратуру, каб гэтую справу прыкрыць.

У выніку ў Віцебску былі закрытыя клубы, якія выпраўлялі падлеткаў на «трэнінгі», аналагічныя «патрыятычныя клубы» былі закрытыя ў Гродне. На запыты актывістаў вымушаныя былі рэагаваць сілавікі, праверку праводзіў нават Сінод беларускага экзархату РПЦ. Гэтай праблеме былі прысвечаныя сюжэты на АНТ і артыкулы ў «Советской Белоруссии».

Ці была б такая рэакцыя дзяржаўных органаў і СМІ, калі б дэмакратычная грамадскасць (то бок актывісты апазіцыі) не ўздымала вэрхал з гэтай нагоды? Ці звярнуў бы ўвагу МУС на «патрыятычныя клубы», калі б яго не бамбардавалі адпаведнымі заявамі? Дакладна не. Проста ўзгадаем, як калісьці афіцыйныя СМІ замоўчвалі «плюшавую бамбардзіроўку», калі шведскі легкаматорны самалёт праляцеў беларускія межы і вярнуўся назад, незаўважаны для нашых сістэмаў СПА. І толькі дзякуючы незалежным СМІ і грамадскасці на «дзірку ў паветры» звярнулі ўвагу. Што, дарэчы, паспрыяла абароназдольнасці Беларусі.

І сілавікі, і дзяржаўныя СМІ змоўчалі б і зараз — але грамадства не дала.

Хто гэта ўсё зрабіў магчымым? Тут унёсак і «Маладога фронту», які стварыў свой спіс «Чорнай сотні» — груповак і з'яваў «русского мира» ў Беларусі, што дало падставы журналістам пакапацца ў дзейнасці пэўных арганізацый.

## Кропля камень точыць

Зноў жа, навіны апошніх тыдняў. МУС прапанаваў ва ўрад праект указу пра абмежаванне гандлю алкаголем і аддзяленне яго ад «асноўных» прадуктаў у буйных крамах. У сярэдзіне кастрычніка ў краіне прайшоў «тыдзень без абортаў», — на працягу тыдня медыкі праводзілі аборты толькі па медычных паказчыках. У 2014 годзе былі прынятыя змены ў заканадаўства, паводле якіх доктар можа адмовіцца рабіць аборт, калі гэтая адмова не пагражае жыццю і здароўю пацыенткі.

Менавіта за гэта — як у плане алкаголю, так і ў плане абортаў, — некалькі гадоў вядзецца кампанія «Моцная сям'я — моцная Беларусь». Ініцыявала тую кампанію Беларуская хрысціянская дэмакратыя, і цягнецца яна беспарапынна ад 2009 года. Былі ў гэтай кампаніі свае ўзлёты (як у 2014-м, калі дактары займелі магчымасць выбару наконт абортаў) і свае падзенні (як у 2015-м, калі пасля «алкагольнай нарады» з Лукашэнкам фактычна была знятая забарона на гандаль алкаголем з 22.00 да 9.00). Тым не менш, актывісты БХД рэгулярна «тузаюць» урад сабранымі па той ці іншай праблеме подпісамі. І ў выпадку з абартаваннем гэта дало вынік, абгрунтаваўшы патрэбы медыкаў «народным волевыяўленнем».

## Сімвал непераможнасці

Напрыканцы кастрычніка Зміцер Дашкевіч перадаў у Міністэрства культуры больш за 10 тысяч подпісаў, якія сабралі шэсць (!) чалавек, за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці. У матэрыяле на сайце naviny.by палітычны аглядальнік Паўлюк Быкоўскі па паліцах расклаў, чаго дамагліся маладзёны, нават калі Мінкульт не пrыме па гэтым пытанні станоўчае рашэнне.

Гэта і абуджэнне грамадскай свядомасці, і канкрэтная праца апазіцыі, і мэтанакіраванае дзеянне меншасці, якая хоча, каб яе заўважылі, і «курсы асабістага развіцця», і пашырэнне «тэрыторыі свабоды» («Тое, што на іх — зборшчыкаў подпісаў — складаюць пратаколы і, верагодна, аштрафуюць, не бачна мінаку. Затое яму бачна, што выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга дапускаецца ўладамі», — піша Быкоўскі). І «тэрапеўтычны эфект» — «прышчэпка супраць страху» ў грамадстве, якое дасюль хворае на той страх пасля падзей 2010 года.

Падаецца, што глабальна зробіць гэты збор подпісаў? Але ўжо ў эфіры БТ прагучала думка пра тое, каб зрабіць бел-чырвона-белы сцяг «нацыянальным», і Генадзь Давыдзька, кіраўнік таго самага БТ, кажа: «Сярод 10 тысяч падпісантаў мог быць і я... Сцяг сімпатычны, чаму б ні надаць яму гістарычны статус ці яшчэ які-небудзь».

Падаецца, дробязі. Але з гэтых дробязяў потым складаецца малюнак краіны. Колькі было спрэчак наконт «георгіеўскай стужкі»? Колькі актывісты дамагаліся яе забароны, як сімвалу акупацыі Украіны Расіяй? А потым улада стварыла свой сімвал перамогі і калі не забараняла, дык не падтрымлівала выкарыстанне «георгіеўкі» на святах.

А ў што выліўся «Дзень вышыванкі»? Сёлета яго праводзілі БРСМ, які банальна скраў ідэю ў «Арт-Сядзібы». Той самай «Арт-Сядзібы», якую ў свой час улады шчамілі па кутах, пазбаўляючы офісаў і залаў.

Хто зрабіў такое магчымым? Так, тая самая «слабая і раз'яднаная апазіцыя».

## Не горш за іншых

Навучыўшыся працаваць з грамадствам (прынамсі, з пэўнай яго часткай), апазіцыя проста не ўмее піярыць свае дасягненні. Але, калі глядзець рэтраспектыўна, аказваецца, што гэтых дасягненняў даволі багата. Проста мы засяроджваемся не на іх, а на скандалах ды ўнутраных спрэчках той самай апазіцыі. Іх сапраўды хапае.

Паглядзіце на Украіну. Ці ведаеце вы, якія там дасягненні у апазіцыі? Альбо ў Польшчы? Так, палякі нядаўна адстаялі свае права на аборты, аднак гэта, пэўна, адзіная іх перамога за некалькі гадоў. Але і становішча іх апазіцыі зусім непараўнальнае з нашым. Наша апазіцыя выціснутая з сістэмнай палітыкі, не мае ўнутранага фінансавання, не дапушчаная да агульнадзяржаўных СМІ і сціснутая межамі крымінальнай адказнасці (артыкул за дзеянні ад імя незарэгістраванай арганізацыі ніхто не адмяняў).

Так што наша апазіцыя можа быць якой заўгодна: раз'ядданай, нецікавай, нягеглай. Але толькі не слабой.

Фота Юрыя Дзядзінкіна

# Прыватызацыя і банкаўскія інтрыгі

Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Ініцыятыва ўрада па продажы стратэгічным замежным інвестарам пакетаў акцый найбуйнейшых беларускіх банкаў можа быць звязаная не толькі з жаданнем прыцягнуць у банкаўскую сферу дадатковы капітал. Але і са спробай стварыць нейкі абыходны механізм прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў замежнікамі.**







### Банкі на продаж

Яшчэ летам прадстаўнікі «Беларусбанка» агучылі ідэю — прадаць частку акцый банка нейкаму замежнаму інвестару. Прычым, па версіі саміх банкіраў, не дзеля грошай, а каб прыцягнуць новыя тэхналогіі, а таксама зыходзячы з таго, што развіццё найбуйнейшага беларускага банка будзе вызначаць развіццё ўсёй банкаўскай сістэмы краіны.

Кіраўнік фінансава-эканамічнага дэпартамента ААТ «АСБ Беларусбанк» Аляксандр Ягораў так апісваў гэта ў карпаратыўным часопісе банка: «Відавочна, што для выхаду на расійскі рынак і атрымання дадатковага прыбытку «Беларусбанку» патрэбна моцнае плячо ў выглядзе стратэгічнага інвестара. Атрыманне грашовых сродкаў — не мэта продажу акцый банка, больш за тое, калі будзе прынята рашэнне аб дадатковай эмісіі, то дзяржава не атрымае «хуткіх» грошай, а будзе атрымліваць размеркаванні па часе прыбытак у выглядзе дывідэндаў, і не больш за тое. Ды і «Беларусбанк» — не такі буйны актыў, як той жа «Беларуськалій», продаж якога сапраўды дазволіў бы закрыць праблемы і з аплатным балансам, і з золатавалютнымі рэзервамі на найбліжэйшыя гадоў дзесяць».

«Беларусбанк» — найбуйнейшы банк Беларусі, 99,98% яго акцый належаць дзяржаве. На 1 студзеня 2016-га доля «Беларусбанка» ў агульным аб'ёме актываў беларускага банкаўскага сектара склала 41,2%, доля на рынку ўкладаў фізічных асоб — 45%, крэдытны партфель — 72% ад усіх выдадзеных насельніцтву крэдытаў.



У кастрычніку стала вядома, што акрамя «Беларусбанка» да продажу рыхтуюць пакеты акцый яшчэ ў двух дзяржбанках. Фармальна, робіцца гэта ў адпаведнасці з распрацаванай Нацбанкам стратэгіяй развіцця фінансавага рынка да 2020 года, якая прадугледжвае

**Нібыта і буржуям нічога не прадалі — але і грошы ў краіну прыйшлі, і прадпрыемствы рэфармуецца, і кіраўнік краіны ўласнае аблічча захаваў**

паніжэнне долі дзяржавы ў банкаўскай сістэме. На пачатак верасня 2016 года доля дзяржавы ў статутным капітале беларускіх банкаў складала 80%. Цяпер прапаноўваецца прадаць частку акцый дзяржавы ў «Белінвестбанку» (у ім дзяржаве належаць практычна 100% акцый) і «Банку Масква—Мінск». Але што цікава: у «БПС-Ашчадбанку» (былы «Белпрамбудбанк»), які належыць расійскаму «Ашчадбанку», супрацоўнікі таксама неафіцыйна разважаюць аб яго верагодным хуткім продажы, — прычым казахам.

Факты ж пакуль такія. 30 верасня Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця (ЕБРР) і Нацыянальны банк Беларусі падпісалі мемарандум аб прыватызацыі «Банку Масква—Мінск». Што датычыць «Беларусбанка», то для продажу яго пакета акцый (25% ад статутнага фонду, або на суму 400 мільёнаў долараў) створаная працоўная група на чале з міністрам фінансаў Уладзіміруам Амарыным, якая рыхтуе адпаведную прапанову па продажы.

Аднак сёння беларускія банкі знаходзяцца ў значна лепшай эканамічнай сітуацыі, чым іншыя галіны эканомікі, — яны ўсё ж працуюць з прыбыткам. Больш за тое, у верасні доля праблемных актываў беларускіх банкаў знізілася пасля росту дзесяць месяцаў запар: на 1 кастрычніка яна склала 14,3% супраць 14,8% месяц таму. Атрымліваецца, што ўрад гатовы аддаваць замежным інвестарам свае долі ў прыбытковых кампаніях, пакідаючы «за кадрам» мноства прамысловых прадпрыемстваў, якія стратныя і якім вострa патрэбныя інвестыцыі. На першы погляд, нелагічна.

### Вельмі хітрая прыватызацыя

Чаму дзяржава вырашыла пайсці на частковую прыватызацыю дзяржбанкаў? І як гэта можа быць звязана з так і не распачатай масавай прыватызацыяй у Беларусі? Магчыма, тут шмат што тлумачыць інфармацыя, якая з'явілася ў сярэдзіне кастрычніка пра тое, што ўжо падрыхтаваны праект змен ва ўказ №88 ад 2004 года, які прадугледжвае рэструктурызацыю праблемнай запазычанасці прадпрыемстваў шляхам уваходжання банкаў у акцыянерны капітал пазычальнікаў. Працей кажучы, беларускія банкі могуць атрымаць права рабіцца ўласнікамі тых прадпрыемстваў, якія не плацяць па крэдытах. Не аднаасобнымі ўласнікамі, вядома, але паўнавартаснымі акцыянерамі праблемных прадпрыемстваў.

Пакуль, паводле дзеючага заканадаўства, абменьваць крэдытныя абавязкі на акцыі прадпрыемстваў маюць права толькі дзяржаўныя банкі. Але якраз ім гэта права — ні да чаго, у іх наогул іншая функцыя. А калі ўмовы ўказу №88 зменяць, то права на рэструктурызацыю праблемнай запазычанасці шляхам уваходжання ў акцыянерны капітал пазычальнікаў атрымаюць і недзяржаўныя банкі.

У цэлым гэтая ідэя з пункту гледжання ўрада выглядае даволі прыязнай — доля праблемных абавязкаў у банкаўскай сістэме Беларусі за бягучы год вырасла больш чым у два разы — з 6,8% на пачатак 2016-га да 14,3% сёння. Кіраўнік Нацбанка Павел Калаўр нават дапускае да канца года рост праблемных актываў да 16%.

У Савеце міністраў лічаць, што, стаўшы сузаснавальнікамі, банкі змогуць палепшыць карпаратыўнае кіраванне на праблемных прадпрыемствах і такім чынам дапамогуць ім выйсці са складанага фінансавага становішча. Працей кажучы, калі прызначаны мясцовым выканкамам або галіновым холдынгам дырэктар відавочна некампетэнтны, банк зможа запатрабаваць яго змены — і адначасова перабудаваць усю сістэму кіравання на прадпрыемстве. То бок банк выступіць у ролі інвестара, які будзе арыентавацца на паказчыкі прыбытковасці, а не на «сацыяльны складнік».

Але гэта ў ідэальным свеце. У свеце рэальным і чыста з пункта гледжання бізнесу банкам не вельмі цікава станавіцца ўласнікамі прадпрыемстваў: у іх проста няма адпаведных кампетэнцый па кіраванні ў прамысловасці. На дзяржпрадпрыемствах новыя менеджары, прызначаныя банкамі, наўрад ці змогуць прымаць ключавыя рашэнні (напрыклад, масава звальняць непатрэбных працаўнікоў). Да таго ж, стаўшы саўладальнікамі, банкі пачнуць несці субсідыярную адказнасць па ўсіх абавязках прадпрыемства. А ім гэта не цікава.

Усё выглядае інакш, калі паглядзець на сітуацыю з пункту гледжання пераразмеркавання ўласнасці. Лукашэнка так шмат казаў пра тое, што «не дапусціць продажу беларускіх прадпрыемстваў замежным алігархам», што ўжо, пэўна, сам сабе надакучыў. Аднак змена ўказу №88 дазволіць (пры неабходнасці) замаскіраваць любую прыватызацыю. Бо фармальна нават кантраляваны замежнымі інвестарамі банк застаецца айчынным. І яго ўваходжанне ў лік уласнікаў беларускага прадпрыемства тлумачыцца самымі высакароднымі матывамі: спісаць «дрэнныя» абавязкі, аздаравіць менеджмент прадпрыемства, вывесці яго на прыбытковасць...

Але пры гэтым выбудоўваецца новы ланцужок уласнікаў: замежны інвестар — беларускі банк — прадпрыемства. Нібыта і буржуям нічога не прадалі — але і грошы ў краіну прыйшлі, і прадпрыемства рэфармуецца, і кіраўнік краіны аблічча захаваў. А калі нешта пойдзе не так, заўсёды можна знайсці вінаватых у кіраўніцтве тых жа банкаў. Балазе, досвед пасадкі банкіраў у Беларусі багаты, пачынаючы з часоў Тамары Віннікавай.

Падрыхтаваныя змены ва ўказ №88 прадугледжваюць два варыянты ўваходжання банкаў у акцыянерны капітал прадпрыемстваў. Калі гаворка ідзе аб неплацельшчыку крэдытаў, які належыць дзяржаве, то для ўваходжання ў яго акцыянерны капітал камерцыйны банк павінен будзе атрымаць згоду ўрада і ўхвалу Лукашэнкі. Калі ж размова пра прыватную кампанію, банку для ўваходжання ў акцыянерны капітал дастаткова будзе атрымаць згоду ўласнікаў.

Застаецца пытанне: што будзе, калі прадпрыемства належыць часткова дзяржаве, а часткова ўласніку? Менавіта такую структуру маюць самыя «смачныя» прадпрыемствы беларускай прамысловасці. Гледзячы па ўсім, гэта цяпер і з'яўляецца прадметам абмеркавання. І па тым, як будзе выглядаць канчатковая рэдакцыя ўказу, можна будзе зрабіць высновы пра яго сапраўдныя задачы.



Аксана КОЛБ

**Працы французскага фатографа Жана-Марка Карачы экспанаваліся ў розных краінах свету. Ён наведаў ужо 38 сталіц еўрапейскіх дзяржаў, ствараючы сваю серыю «Homo Urbanus Europeanus». Беларусь стала 39-й. Падарожжа ў Мінск адбылося дзякуючы «Новаму Часу», якому Жан-Марк даў эксклюзіўнае інтэрв'ю.**



Мінск, 2016. Фота Жан-Марка Карачы

# «Мяне часта затрымліваюць

По паходжанні Жан-Марк Карачы — сіцыліец. Калісьці яго бацькі пераехалі з Сіцыліі ў Туніс. Менавіта ў Тунісе ў 1958 годзе і нарадзіўся Жан-Марк. Пазней бацькі пасяліліся ў Францыі. Зараз Жан-Марк жыве ў Манпелье, на поўдні Францыі. Такім чынам, яго можна ўмоўна назваць грамадзянінам трох краін. А па завяршэнні праекта фатографа па праву можна будзе лічыць грамадзянінам Еўропы.

***— Жан-Марк, раскажыце пра свой «Homo Urbanus Europeanus».***

— Галоўная ідэя праекта — аб'яднаць усе еўрапейскія сталіцы мастацтвам фотаздымка. Я вялікі прыхільнік Еўрапейскага саюза. Падтрымліваю ўключэнне ў ЕС новых краін, у тым ліку хацеў бы бачыць тут Турцыю. Таму мой праект можна лічыць своеасаблівым палітычным выбарам. Калі мы паглядзім на Еўропу ў цэлым і на яе асобныя сталіцы, мы ўбачым, што ўсе еўрапейскія краіны могуць аб'яднацца з дапамогай фатаграфіі. Фатаграфіі, зробленыя ў Сафіі, Варшаве або Мадрыдзе, характарызуюцца агульнай еўрапейскасцю. Я пазбягаю нацыянальных і культурных адрозненняў, наколькі гэта магчыма. Фактычна, на маіх здымках немагчыма вызначыць краіну альбо канкрэтны горад, але распазнаць Еўропу можна на кожнай фатаграфіі. Я рады, што магу сказаць пра свой «Homo Urbanus Europeanus»: «Я працую ў Еўропе».

Пры гэтым мне важна паказаць чалавека ў вялікім горадзе. Гэта новы чалавек, еўрапейскі, сучасны, чалавек XXI стагоддзя. Ён ходзіць адзін у пустэльных чорных і белых гарадскіх раёнах. І гэта яго не турбуе. Ён з'яўляецца часткай прыроды горада, можа быць, нават яго найскравай якасцю. Гэтыя самотныя людзі на самай справе не ёсць адлюстраваннем адчужэння, а наадварот: яны паказваюць свет сучаснага чалавека, які знаходзіць свабоду і шчасце паміж маналітнымі контурамі горада, пабудаванага з граніту, жалеза і шкла. Нягледзячы на тое, што чалавек падаецца такім маленькім на фоне архітэктурных формаў гораду, ён з'яўляецца гаспадаром горада. І не важна, якая гэта краіна, якая сталіца — яны ўсе аб'яднаныя гэтым гаспадаром.

***— Напэўна, самае распаўсюджанае пытанне да вас — чаму вашы здымкі чорна-белыя? Не буду арыгінальнай і таксама запытаю: чаму?***

— Сапраўды, гэта пытанне праследуе мяне ў кожнай краіне, дзе я даю інтэрв'ю (смяецца). І мне ўжо цяжка сказаць штосьці арыгінальнае. Можна было б абмежавацца кароткім адказам: мне падабаюцца чорна-белыя здымкі. Але справа не толькі ў гэтым. Адмова ад рознакаляровасці не распыляе ўвагу, дазваляе падкрэсліць еднасць чалавека і горада, яго натуральнасць сярод гмахаў. Дазваляе сфакусавацца менавіта на гармоніі чалавека і горада. Паглядзіце, колькі ў фота шэрых адценняў! А як выглядаюць персанажы! Яны моцныя, ведаюць, куды ідуць і чаго жадаюць, ганарацца сваім горадам, яны выглядаюць як каралі вуліцы. А рознакаляровасць толькі б перашкаджала, адцягвала б увагу ад галоўнага.



Магу яшчэ дадаць, што B&W вельмі пасуе вулічнай фатаграфіі, пазбаўляе гарады забруджанасці колерамі. З'яўляецца проста фантастычным для адлюстравання паэзіі гарадоў, прадметаў, людзей...

Акрамя таго, яшчэ раз скажу, што мне вельмі падабаецца працаваць якраз у чорна-белым стылі. Наогул, мой стыль фармаваўся пад уплывам такіх фатографаў, як Анры Карцье Брэсон, Эліёт Эрвіт, Раймон Дэпардон, а таксама пад уздзеяннем прац амерыканскага мастака Эдварда Хопера.

***— Наколькі я ведаю, прафесійна фатаграфіяй вы пачалі займацца толькі 10 гадоў таму.***

— Так, у 2006 годзе я страціў працу ў вялікай аўтамабільнай кампаніі. Зусім не цікавую працу, магчыма, таму і не асабліва сумаваў. Паўстала пытанне, што рабіць далей. І я вырашыў прысвяціць сябе фатаграфіі як прафесіі. Мне было 48 гадоў, і мне захацелася зрабіць нешта вялікае, нешта накшталт «праекту майго жыцця». У выніку ў 2007 годзе нарадзіўся мой «Homo Urbanus Europeanus». Так што сапраўды прафесійным фатографам я з'яўляюся толькі каля 10 гадоў, і зарабляю гэтым на сваё жыццё. Праўда, не вельмі шмат.

А наогул, цікавасць да фатаграфіі з'явілася дзякуючы майму старэйшаму брату. Мне было каля 15 гадоў, калі ён прымусіў мяне паглядзець у відашукальнік сваёй камеры (Kodak Brownie Hawkeye), і гэта мяне вельмі ўразіла, гэта быў проста цуд. Пасля брат даў мне пакарыстацца камерай, і я зрабіў свой першы здымак: сфатаграфаваў маю вялікую сям'ю — маму, тату, трох братоў і дзвюх сясцёр. Можна сказаць, што з таго часу здымкі людзей мне падабаюцца больш за ўсё. Хаця ў мяне ёсць і іншыя серыі, напрыклад, раслінны свет — праект «Грын», таксама, дарэчы, чорна-белы.

***— Раскажыце пра сваю сям'ю. Як блізкія ставяцца да вашай працы?***

— Прабачце, гэта вельмі асабістае пытанне. Я ніколі не адказваю на яго і не буду рабіць выключэнне зараз. Скажу толькі, што мяне заўсёды вельмі падтрымлівае мой брат.

***— Тады вернемся да праекту. Як вы выбіраеце краіну для падарожжа? Чаму вы вырашылі прыехаць у Мінск?***

— Таму што вы мяне запрасілі (смяецца). Гэта праўда. Я не магу дазволіць сабе цалкам аплаціць маё падарожжа, таму для мяне важна знайсці людзей ці арганізацыі, якія б аплацілі мне частку выдаткаў. Таму я вельмі ўдзячны, што ў мяне была магчымасць пажыць некалькі дзён у вашага журналіста. Падобным чынам я наведаў Вену, Браціславу, Рыгу, Вільнюс.

Звычайна я проста адпраўляю запыты ў розныя інстытуцыі некалькіх краін, а пасля чакаю адказу. «Новы Час» адгукнуўся, таму я змог наведаць Мінск.

***— Няўжо з Беларусі больш ніхто вам не адказаў?***

— І так, і не. Я напісаў яшчэ і ў Міністэрства спорту і турызму і ў пасольства Беларусі ў Францыі. І атрымаў таксама запрашэнне ад Міністэрства спорту і турызму. Яны сказалі, што ў іх ёсць праект, які называецца «Замежны погляд на Беларусь». У гэтым праекце павінны былі ўдзельнічаць 5 фатографаў з Іспаніі і Францыі. Спачатку мне сказалі, што аплацяць праезд, пражыванне і візу, а ўзамен я павінен аддаць на 5 гадоў права карыстання фотаздымкамі. Пры гэтым фота я мог бы рабіць любыя, мне ў гэтым даваўся карт-бланш.

Але за два тыдні да паездкі мне даслалі кантракт. І ў ім былі прапісаныя проста неверагодныя ўмовы, яны хацелі штодня 30 фота. Прычым не любых, цытую: «На фотаздымках павінны


Мінск, 2016. Фота Жан-Марка Карачы

**На адным месцы я магу заставацца некалькі гадзін, пакуль не дачакаюся неабходнага супадзення святла, ценю, самотнага чалавека. Бывае, магу вяртацца зноў і зноў на адно і тое ж месца**


Кішынёў, 2015. Фота Жан-Марка Карачы


Мінск, 2016. Фота Жан-Марка Карачы

# паліцэйскія і ахоўнікі»


Вільня, 2007. Фота Жан-Марка Карачы

быць выяўлены гісторыка-культурныя, прыродныя аб'екты, а таксама аб'екты турыстычнай індустрыі Рэспублікі Беларусь. Названыя аб'екты павінны быць пазнавальныя, як аб'екты Рэспублікі Беларусь». Уявіце, па 30 здымкаў за дзень. Пры гэтым у кантракце нічога не казалася пра тое, ці збіраюцца мне нагогул што-небудзь аплачваць. Кантракт гэты быў падпісаны першым намеснікам міністра спорту і турызму Гагіевым А.С. На словах мне было сказана, што могуць аплаціць толькі 4 дні пражывання.

Усе іншыя фатографы адмовіліся ад удзелу ў праекце міністэрства. Я патэлефанаваў у пасольства Беларусі і сказаў, што калі Міністэрства спорту і турызму хоча атрымаць такую колькасць фотаздымкаў бясплатна, то яно можа папрасіць каго-небудзь з беларускіх пачаткоўцаў. І таксама адмовіўся ад удзелу. Але паколькі акрамя міністэрства мяне запрасілі вы, я ўсё ж прыехаў у Мінск.

На жаль, першыя дні ў Мінску прайшлі для мяне не вельмі ўдала. Было пахмурна, і я не змог зрабіць ні аднаго здымка. Але пасля надвор'е ўсталявалася, і я магу сказаць, што зараз у мяне ёсць здымкі 39 еўрапейскіх сталіц.

***— Для вас настолькі важна добрае надвор'е? Раскажыце, як вы працуеце над кадрам?***

— У першую чаргу, я шукаю патрэбнае месца. А пасля чакаю патрэбнае святло. Пасля мне патрэбны сілуэт, які б упісаўся ў мой кадр. Такім чынам на адным месцы я магу заставацца некалькі гадзін, пакуль не дачакаюся неабходнага супадзення святла, ценю, самотнага чалавека. Бывае, што пасля некалькіх гадзін і некалькіх кадраў бачу, што нічога годнага не атрымалася, я не задаволены вынікам, таму магу вяртацца зноў і зноў на адно і тое ж месца, пакуль мне не ўдаецца зрабіць лепшую фатаграфію, захапіць неабходны мне характар.

Вы ведаеце, я часам адчуваю сябе стваральнікам нейкага фільма, але без якой-небудзь мадэлі або канкрэтных акцёраў. Любы чалавек у пэўны момант можа стаць маім героем.

Але бывае, што патрэбнае фота атрымліваецца за 30 секунд, калі ўсе гэтыя тры кампаненты раптам сыходзяцца, і я магу іх зафіксаваць. Праўда, гэта хутчэй выключэнне. Часцей за ўсё мой працоўны дзень — гэта шматгадзіннае стаянне на адным месцы. З-за гэтага, дарэчы, бываюць часам праблемы.

Напрыклад, у Мадрыдзе мяне затрымала іспанская жандармерыя (Guardia Civile). Аказваецца, я спрабаваў зрабіць здымак іспанскага Міністэрства фінансаў. Хаця на той момант нават не ведаў, што гэта за будынак. Праз паўгадзіны ў паліцэйскім участку яны пагадзіліся адпусціць мяне, але картку памяці забралі.

Наогул, менавіта з-за спецыфікі маёй працы над кадрам мяне вельмі часта затрымліваюць паліцэйскія ці ахоўнікі розных офісаў. Пасля доўга ім даводжу, што я не шпіён, а звычайны фатограф, нават турыст. Але я іх разумею, даволі падазрона выглядае чалавек, які гадзінамі стаіць на адным месцы з камерай у руках (смяецца).

***— У Беларусі вас не затрымлівалі?***

— Не, я не здымаў каля Адміністрацыі прэзідэнта (смяецца). Але ў Мінску даволі цікавы выпадак адбыўся са мной у грамадскім транспарце. Я зайшоў у тралейбус і шукаў, як пракампасціраваць квіток. І ніяк не мог зразумець, як гэта зрабіць. Адзін малады чалавек запытаўся па-англійску, ці можа ён мне чымсьці дапамагчы. Мы разгаварыліся, аказалася, што ён таксама прафесійны фатограф, яго завуць Андрэй. Мы з ім абмяняліся кантактамі. Ну скажыце, якая існуе верагоднасць сустрэць у двухмільённым чужым горадзе прафесійнага фатографа?

***— А ці былі нейкія крымінальныя гісторыі?***

— Так, былі. У Грэцыі, напрыклад, у мяне скралі мабільны тэлефон, і я на нейкі час застаўся без сувязі. А ў Капенгагене, пакуль я ехаў з аэрапорту, у аўтобусе з майго заплечніка выцягнулі партманэ. Я прыехаў у гатэль, і аказалася, што ў мяне нічога няма — ні банкаўскай карткі, ні грошай. Заўважце, гэта адбылося ў Капенгагене, а не на Сіцыліі.

У гатэлі я звязаўся з маім братам, ён пераслаў мне грошы, такім чынам я змог зрабіць сваю працу. Праўда, уражанне было сапсаванае.

Але былі і вельмі прыгожыя гісторыі. У Рэйк'явіку я сустрэў вядомага ў Ісландыі мастака. Ён сам з Каталоніі, але пакінуў Іспанію ў юнацтве з-за рэжыму Франка. Выпадкова апынуўся ў Ісландыі, пазнаёміўся з дзяўчынай, таксама мастачкай, і вырашыў застацца... Ён гаварыў па-французску. Яны з жонкай запрасілі мяне на абед у яго іспанскі дом у Ісландыі. Такі паўднёвы каларыт у паўночным кутку. Гэта было абсалютна цудоўным і нерэальным. Мы пасябравалі.

Ад Мінску ў мяне таксама застануцца цёплыя ўражанні. Мінск, я, дарэчы, наведаў упершыню.

***— Якія яшчэ сталіцы вы плануеце наведаць?***

— Я збіраўся яшчэ у Ерэван і Баку. У Баку была прыватная кампанія, якая брала на сябе ўсе выдаткі на маю паездку. Мы некалькі месяцаў абмяркоўвалі дэталі. Але пасля яны мне проста даслалі адзін сказ: «На жаль, наш праект не можа адбыцца». Тое ж самае адбылося ў Ерэване. Я, канечне, мог паехаць і самастойна, у мяне ёсць знаёмыя ў гэтых краінах. Але я чакаў афіцыйнага адказу, і час быў страчаны. Чарговыя краіны я наведаю ўжо ў наступным годзе. Справа ў тым, што з-за неабходнага святла, звычайна я раблю здымкі з мая па верасень, таму ў гэтым годзе ўжо больш нікуды не паеду.

Але мне ёсць чым заняцца. Я рыхтую да выдання фотаальбом. Але акрамя фотаздымкаў з 42 краін, якія я наведаю цягам праекту, там будуць і 42 гарадскія навелы. Караценькія гісторыі на 150 слоў ад пісьменнікаў тых краін, дзе я падарожнічаў. Навелы будуць надрукаваныя на французскай мове і мове краіны аўтара. На сённяшні дзень у мяне ёсць 29 такіх гісторый, і яны ўсе вельмі розныя і надзвычай цікавыя. Але адшукаць аўтараў не так проста. Таму праз вас я звяртаюся да аўтараў з Беларусі — тых, хто піша цікавыя гарадскія гісторыі. Магчыма, хтосьці захоча напісаць мінскую гісторыю пад мінскі цыкл фота. Адзінае, адразу хачу папярэдзіць, што гэта безганарарная праца.

Такім чынам, планую сфатаграфаваць яшчэ 3 сталіцы (Тбілісі, Ерэван і Баку) і выдаць альбом, над якім працую ўжо некалькі гадоў, ужо ў 2017-м. Праўда, калі атрымаецца зрабіць фота і знайсці аўтараў. Выдавец для гэтага альбому ўжо ёсць.

***— Я ведаю, што ў вас ёсць і ненадрукаваны раман. Пра што ён?***

— Цікава, што вы запыталіся пра гэта, бо зусім нядаўна я яго якраз перачытаў і вырашыў перапрацаваць некаторыя часткі. Раман сапраўды гатовы і, калі не знайду выдаўца, то буду спрабаваць выдаць яго за свае грошы. Пра што ён? Як звычайна, пра жыццё. На першай жа старонцы рамана галоўны герой памірае і з нябёс пачынае назіраць за сваёй каханай. І раптам адкрывае яе рэальнае жыццё. Спадзяюся, раман будзе цікавым для чытачоў.

А наогул, у мяне шмат планаў. Я стараюся ўдзельнічаць у шматлікіх фотафестывалях, як той, што прайшоў у Каўнасе. У кастрычніку 2017 года рыхтуецца выстава маіх прац на Кіпры. У мяне ўжо было некалькі дзясяткаў выстаў. Звычайна яны прымеркаваныя да Дзён Еўропы. Часта ўсе выдаткі, звязаныя з іх правядзеннем, бяруць на сябе адміністрацыі гарадоў, якія становяцца сталіцамі еўрапейскай культуры. Часам знаходзяцца прыватныя спонсары або фірмы.

***— Ці плануеце вы выставу ў Беларусі?***

— Калі знойдуцца спонсары, чаму не? Я з задавальненнем пакажу сваю Еўропу беларускім гледачам. І яны ўбачаць, што Мінск — такі ж еўрапейскі горад, як Мадрыд або Капенгаген.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Выратаваць гук «Қ»!

У Казахстане зноў разгарэліся спрэчкі вакол напісання назвы краіны ў англамоўнай транскрыпцыі. Адна частка насельніцтва лічыць, што больш правільна і даклада пісаць «Qazaqstan», другая ўпэўнена: ад назвы «Kazakhstan» адмаўляцца сэнсу няма. Упершыню тэма літары «Q» пачала актыўна абмяркоўвацца ў ліпені 2004 года, калі кіраўнік краіны агучыў ідэю аб неабходнасці пераходу казахскай мовы на лацінку. Адначасова паўстала пытанне і пра пазначэнне шэрагу спецыфічных гукаў, у тым ліку «Қ», які, на думку некаторых лінгвістаў, варта пазначаць літарай «Q». Адпаведна, слова «Казахстан» пры пераходзе на лацінку будзе пісацца «Qazaqstan». Дыскусія, аднак, не мела практычнага працягу да кастрычніка 2016-га, калі найбуйнейшы банк краіны вырашыў узяць назву «Qazkom», уклаўшы ў рэкламу свайго новага імя немалыя сродкі. «Патрыёты» абвясцілі рашэнне кіраўніцтва банка «крокам па аднаўленні справядлівасці ў адносінах да казахскай мовы». Нечакана лагер праціўнікаў «Q» узмацніўся за кошт групы лінгвістаў, якія лічаць, што ў сістэме казахскай мовы «Қ» — унікальны гук, да асаблівасцяў якога неабходна ставіцца вельмі асцярожна. На іх думку, для выяўлення гэтага гуку нават трэба шукаць новую літару.

**Паводле казахскай прэсы**

### РАСІЯ. Першыя ахвяры «русского мира»

Вядучая ўкраінская аналітычная газета «Дзеркало тиждня» пазнаёміла чытачоў з тэорыяй, паводле якой у абласцях Расіі, дзе зараз знаходзяцца Бранск, Старадуб, Трубчэўск, Рыльск, Курск і Варонеж, да XVI стагоддзя існаваў асобны, блізкі да ўкраінцаў субэтнас «сеўрукі». Ён склаўся на тэрыторыі так званай «Сіверскай зямлі» — гістарычнай вобласці старажытнай Русі, якая трапіла ў склад Вялікага княства Літоўскага. Прыкладна ў XVI стагоддзі цар Іван Трэці ўключыў гэты край у Маскоўскае царства і пачаў засяляць яго этнічнымі рускімі, каб стварыць на месцах апірышча для сваёй улады. У сеўрукоў гэта выклікала актыўны супраціў, першай праявай якога стала эміграцыя ледзь не большасці сіверскага баярства на тэрыторыю сучасных Украіны і Беларусі. Тыя, хто засталіся, нападалі на рускіх-пасяленцаў. Падчас інтэрвенцыі войскаў Ілжэдзмітрыя Першага сеўрукі далучыліся да яго. Падтрымлівалі яны і атамана Івана Балотнікава, праз што яго паход на Маскву доўгі час у народзе меў назву «сеўрукоўская вайна». Супраціў сеўрукоў быў зламаны толькі ў XVIII стагоддзі за кошт масавай каланізацыі краю. Мадэль асіміляцыі сеўрукоў, які піша выданне, стала альфай і амегай расійскай каланіяльнай палітыкі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІРЛАНДЫЯ. За што спалілі Петранілу?

Прагрэсіўная грамадскасць Ірландыі адзначыла незвычайны юбілей. 695 гадоў таму, у 1321 годзе, у Ірландыі каталіцкая інквізіцыя спаліла на вогнішчы служанку Петранілу. У прынцыпе, для тых часоў гэта была звычайная практыка, аднак выпадак з Петранілай выглядае па-іншаму. Справа ў тым, што інквізітары не лічылі яе вядзьмаркай. Яе гаспадыня была абвешчана вядзьмаркай на той падставе, што ў яе было чатыры мужы. Тры з іх паслядоўна памерлі, але, упэўненыя інквізітары, не самі па сабе. Гэта яна выправіла іх на той свет з дапамогай сваёй вядзьмарскай мазі. На допытах Петраніла чыстасардэчна прызналася, што яна сапраўды абслугоўвала вядзьмарку, але нават не здагадвалася, што яе гаспадыня датычная да нячыстай сілы. Але суд паслаў служанку на вогнішча разам з гаспадыняй. На думку гісторыкаў, застаецца толькі радавацца, што той выпадак не стаў прававым прэцэдэнтам.

**Паводле канадскай прэсы**

### ЗША. Як Хрушчоў прыдумаў геяў

Мінулая прэзідэнцкая кампанія ў ЗША, безумоўна, трапіць у аналы гісторыі праз экстравагантнасць кандыдата Дональда Трампа і яго прыхільнікаў. Усе рэкорды тут пабіў нехта Стывен Хотцэ, тэхаскі рэспубліканец. Падчас агітацыі за Трампа ён заявіў, што гомасексуалізм быў прыдуманы ў Савецкім Саюзе, каб разбурыць Злучаныя Штаты. У якасці доказу ён узгадаў малавядомую цытату Мікіты Хрушчова, які неяк паабяцаў амерыканцам разбурыць іх сістэму не шляхам вайсковай агрэсіі, а іншымі метадамі. На думку рэспубліканца, за гэтымі словамі генеральнага сакратара КПСС хаваўся план штучнай эрозіі маральных прынцыпаў амерыканцаў. Рэалізацыя плану Хрушчова мела некалькі стадый. На першым этапе планавалася легалізаваць у краіне парнаграфію, на другім — прывучыць амерыканцаў да такой з'явы, як гомасексуалізм, а на трэцім — легалізаваць педафілію. Маральная дэгенерацыя мела ў выніку прывесці да калапсу амерыканскай дзяржаўнасці. Цяпер, калі верыць Хотцэ, першыя два пункты рэалізаваныя і застаўся апошні, ад якога будзе залежаць лёс Амерыкі. Натуральна, каб заблакаваць план, які калісьці запусціў Хрушчоў, рэспубліканец заклікаў галасаваць за Трампа.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Размаўляйце па-ўкраінску!

Алег НОВІКАЎ

**Ва Украіне раскручваецца новая спіраль моўнай вайны. Якія могуць быць наступствы?**

Дэтанатарам чарговага канфлікту вакол мовы стаў законапраект дэпутатаў Руслана Княжыцкага і Вікторыі Сюмар. Законапраект прадугледжвае ўвядзенне нормы, згодна з якой «мінімум 75 працэнтаў эфіру «тэлерадыёарганізацый агульнанацыянальнай катэгорыі вяшчання» з 7.00 да 22.00 павінны выходзіць на ўкраінскай мове». Акрамя таго, у законапраекце прапануецца забараніць тэлеканалам і радыёстанцыям абіраць мову вяшчання на сваё меркаванне. За рэгіянальнымі СМІ пакідаюць крыху больш свабоды — там вяшчанне на ўкраінскай мове павінна займаць не менш за 50 працэнтаў эфіру. Законапраект ужо прайшоў першае чытанне.

Менавіта 75 працэнтаў украінамоўнага эфіру і сталі каменем сутыкнення, паколькі вядучыя ўкраінскія інфармацыйныя выпускі і рознага кшталту палітычных шоў (вельмі папулярны ва Украіне жанр) традыцыйна гавораць па-руску.

Гэтая акалічнасць дапамагала і дапамагае лёгка працаўладкавацца ва Украіне вялікай колькасці журналістаў-палітэмігрантаў з Расіі. Напрыклад, Мацвей Ганапольскі, які атрымаў украінскае грамадзянства 20 ліпеня гэтага года, адкрыта выступіў супраць новаўвядзенняў. «...Кіраваць мной ніхто не будзе! Не падабаецца, не падыходжу — да пабачэння! Таму што для мяне эфір — гэта мой свет, у якім я жыву. І ніхто не мае права абмежаваць мой свет. І гэта мой канчатковы адказ», — падкрэсліў наўпрост у эфіры Мацвей Ганапольскі.

Трэба адзначыць, што ў Ганапольскага ва Украіне асаблівы статус. Ён перабраўся сюды з Расіі і хутка стаў адным з самых папулярных крытыкаў пуцінскага рэжыму. Асабліва памятае аўдыторыя яго дыялог з нейкім аматарам Пуціна з Днепрапятроўску (нядаўна перайменаванага ў Дняпро), якога Ганапольскі паслаў у вядомым напрамку ў прамым эфіры. Гэты ўчынак быў ацэнены ў тым ліку прадстаўнікамі адміністрацыі Парашэнкі. Аднак крытыка законапраекта змяніла стаўленне да вядоўцы ў вачах грамадства. У яго заявах пабачылі шантаж дэпутатаў. Найбольш радыкальныя нацыяналісты нават заклікаюць да дэпартацыі Ганапольскага.

Другім — нечаканым — крытыкам законапраекта апынуліся прыхільнікі Майдана з рускамоўнага Паўднёвага Усходу. Адэская дэмакратычная грамадскасць падпісала ліст пратэсту супраць закона «па фактычным выгнанні рускай мовы з украінскіх СМІ». На іх думку, праект з'яўляецца абуральным, ён створаны «ў духу традыцыйных савецкіх партыйных рашэнняў», і ўяўляе сабой «тыповы прыклад чыста бальшавіцкага насаджэння ідэалогіі».

Аўтары асобна акцэнтуюць увагу на негатыўных палітычных наступствах рэалізацыі закона, паколькі гэта «здольнае распаліць нянавісць паміж рускамоўнымі і ўкраінамоўнымі грамадзянамі Украіны». Нагадваюць, што перадумовай да Крымскіх падзей вясной 2014-га была ідэя забароны ва Украіне рускай мовы, агучаная ў парламенце нацыяналістамі з партыі «Свабода».

Магчыма, гэтым разам «крымскай вясны» не будзе, але адназначна будзе рост колькасці спадарожнікавых антэн, якія прымаюць расійскія каналы. Таксама можна чакаць буму моды на рускамоўныя праграмы ў інтэрнэце, якія не падпарадкоўваюцца адміністратыўным нормам. Такім чынам, асноўная задача моўнага закону — стварэнне адзінай украінскай нацыі — выкананая не будзе.




**На практыцы ўсё застанецца, як сёння. Закон будуць ціха сабатаваць, як і папярэднія законы, якія павінны былі пашырыць «украінскую» квоту ў эфіры**

Што тычыцца прыхільнікаў законапраекта, то яны лічаць з'яўленне падобнага нарматыўнага акту лагічным, паколькі ён шмат у чым абумоўлены гісторыяй. Нельга прасоўваць украінскую мову, нічога не робячы. «На маю думку, гэта слушнае рашэнне ў дадзенай сітуацыі. Мова — гэта не толькі выпрабаванне нашай ідэнтычнасці, але і выпрабаванне нацыянальнай бяспекі. Так, я разумею перавагі білінгвізму. Для ўкраінскіх грамадзян было б шкада страціць веданне рускай, як тое адбылося ў Грузіі. Але і беларускі варыянт, калі грамадзяне не валодаюць роднай мовай, з'яўляецца непрымальным. На жаль, пасля татальнага выкаранення Расіяй украінскай мовы трэба ствараць умовы для яе росту», — піша эксперт Багдана Бабіч.

Што да рэакцыі рускамоўных рэгіёнаў, то, на думку той жа Бабіч, далей за межы пабытавага раздражнення яна не выйдзе. У якасці аргументу прыводзяцца вынікі апытанняў, паводле якіх моўнае пытанне нават у самых рускамоўных рэгіёнах займае 12–13 месца ў рэйтынгу актуальнасці.

Чым усё скончыцца? Хутчэй за ўсё, на думку экспертаў, заканадаўчую ініцыятыву Княжыцкага-Сюмар, у выпадку падтрымкі ў парламенце, чакае разгляд у Канстытуцыйным судзе. У законапраекце ёсць месцы, якія можна разглядаць як парушэнне Асноўнага закону. Напрыклад, цяперашняя Канстытуцыя Украіны дэкларуе падтрымку ў развіцці рускага і іншых рэгіянальных моваў.

Прапанавая ў законапраекце моўная рэгуляцыя таксама абмяжоўвае і правы грамадзян на атрыманне інфармацыі.

Магчымы і іншы сцэнар. Закон у парламенце пройдзе, аднак на практыцы ўсё застанецца, як сёння. Яго будуць ціха сабатаваць, як сабатавалі папярэднія законы, якія павінны былі пашырыць «украінскую» квоту ў эфіры. Праблемы не ў тым, што ў рэдакцыях тэлеканалаў і радыё сядзяць украінафобы. Проста дасюль у краіне мала якаснага ўкраінскага культурнага прадукту. Таму патрэбная не рэгуляцыя квотаў, а дзяржаўная падтрымка прадзюсарскіх цэнтраў, якія могуць дапамагаць артыстам ствараць якасны канкурэнтаздольны прадукт на ўкраінскай, і прэферэнцыі для медыя, якія іх раскручваюць.

У гэтым плане сімвалічна, што ў кастрычніку ва Украіне без усялякіх законаў пачала працаваць першая камерцыйная радыёстанцыя, якая круціць выключна ўкраінскую музыку.



# Містыка Дональда Трампа

Алег НОВІКАЎ

**Выбары ў ЗША засведчылі поўнае банкруцтва процьмы як айчынных, так і замежных экспертаў, якія ў масе сваёй адназначна паставілі на трыумф Клінтан.**

Гэтая ўстаноўка, дарэчы, стыхійна перадалася і некаторым палітычным лідарам, якім прафесійны кодэкс нагогул дыктуе быць вельмі асцярожнымі ў ацэнках і пазбягаць катэгарычных высноў.

Больш за ўсіх падставіла сябе ўкраінская палітычная эліта. У Кіеве настолькі паверылі ў будучую перамогу Хілары, што дазвалялі сабе такія эпітэты і мянушкі на адрас Трампа, як «клоун», «маргінал» і гэтак далей. Актыўна раскручвалася тэма, што ў камандзе Трампа працуе былы піяршчык мегакарупцыянера Януковіча. Відавочна, што пасля 8 лістапада тыя, хто ва Украіне называў Трампа клоунам, палезуць цалаваць пантофлі пераможцу, што, безумоўна, адаб'ецца на іх іміджы.

Тое, што перамога Трампа аказалася для сусветнай супольнасці сюрпрызам, у пэўным сэнсе выглядае дзіўна. Ці даўно мы сталі сведкамі рэферэндуму ў Вялікабрытаніі па пытанні выхаду з ЕС? Напярэдадні галасавання ніхто не сумняваўся ў тым, што брытанцы прагаласуюць за захаванне статус-кво. Але вынік апынуўся адваротным — і прымусіў аналітыкаў шукаць, што сапраўды адбываецца.

Тады з'явіўся тэрмін: «маўклівая Брытанія». Гэтая частка простых брытанцаў, якія ў паўсядзённым жыцці індыферэнтныя да палітыкі (таму яны і слаба прадстаўленыя ў рознага роду апытаннях). З іншага боку, яны гатовыя выкарыстоўваць свае канстытуцыйныя правы, каб давесці незадаволенасць кіруючымі элітамі. Прычым асаблівай логікі і аргументацыі, чаму трэба быць у апазіцыі, няма. Быць супраць — гэта інстынктыўная злосць, якую нізы адчуваюць у адносінах да палітычнай сістэмы.

Гэтыя ж фактары апынуліся вырашальнымі і 8 лістапада ў ЗША, дзе яшчэ ўлетку пачалі казаць пра такую сацыяльную групу, як «сарамлівыя трампісты», або па-англійску «shy trampists». Гэта далёка не тыя, хто абавязкова сімпатызуе Трампу. Гэта, хутчэй, тыя, хто разззлаваны і гатовы галасаваць супраць амерыканскага істэблішменту, тэлебачання, СМІ, супраць усёй медыйнай супольнасці, якая крытыкавала Трампа. Белыя мужчыны, якія пабачылі ў феномене Клінтан замах на традыцыю, з'яўляюцца толькі складнікам гэтай групы.

Так атрымалася, што найбольшая канцэнтрацыя такіх людзей з'явілася ў штатах, якія традыцыйна галасавалі за дэмакратаў — Мічыган, Агаё, Пенсільванія і Вісконсін. Гэта прамысловыя штаты, дзе мясцовыя рабочыя пакутуюць ад удзелу ЗША ў зонах свабоднага гандлю, калі амерыканская прамысловасць выводзіцца ў трэці свет. Абама і Клінтан лабіявалі новыя зоны з Азіяй і Еўропай, што выклікала насцярожанасць. Тое, што тут масава прагаласавалі за рэспубліканскага кандыдата, які абяцаў курс эканамічнага пратэкцыянізму, у выніку і вырашыла лёс выбараў. Як выказаўся адзін палітолаг: «Вісконсін і Мічыган нанеслі Клінтан удар нажом у спіну».

Наогул, гэтыя выбары паказалі, што дэмакраты страцілі такую катэгорыю, як «сінія каўняры» — рабочыя карпарацыі, якія праз прафсаюзы заўсёды падтрымлівалі дэмпартыю. У лепшыя часы страта працоўнага электарату кампенсавалася для дэмакратаў галасамі сярэдняга класа. Аднак сёння эканоміка пакідае жадаць лепшага, і гэтая група насельніцтва таксама сацыяльна маргіналізуецца.

Да названай вышэй прычыны можна дадаць яшчэ шэраг фактараў. Па-першае, Хілары Клінтан як асоба выклікае прыступы апатыі нават для вялікай колькасці дэмакратаў. Яна асацыюецца з карупцыяй, вайной, скандаламі. У выніку, як пісаў знакаміты рэжысёр Майкл Мур, электарат Клінтан — гэта, хутчэй, «дэпрэсіўны электарат», людзі, якія на словах за кандыдата ад дэмакратаў, але пры гэтым слаба матываваныя ісці на выбары, а ўжо тым больш агітаваць за Клінтан іншых. У адрозненне, дарэчы, ад выбаршчыкаў Трампа, якія мабілізаваліся самі і мабілізавалі іншых.

Па-другое, як і ў Еўропе, у ЗША расце папулярнасць нацыяналістычных і ксенафобскіх лозунгаў, якія таксама агучваў на выбарах Трамп. У ЗША міжрасавыя праблемы паміж белымі, чорнымі і так званымі «лацінасамі» рэгулярна нагадваюць пра сябе, прычым з нарастаючым эфектам. Дастаткова прыгадаць нядаўнія гісторыі забойстваў чарнаскурых паліцэйскімі, якія выклікалі настолькі моцныя пратэсты, што прымусілі ўводзіць надзвычайнае становішча. У гэтым плане фенаменальны вынік выбараў у Фларыдзе, дзе шмат амерыканцаў лацінаамерыканскага паходжання. З улікам таго, што Трамп перамог і тут, відавочна, што праблема нелегальнай міграцыі дастала нават частку «лацінас».

Нарэшце, адыграў сваю ролю і раздражняльны характар піяр-кампаніі Клінтан. Большасць (71 з 72) буйных СМІ ў краіне падтрымлівалі Хілары. Пры гэтым чамусьці было вырашана канцэнтравацца на негатыўных аспектах Трампа, падкрэсліваць, што ён тупы і агрэсіўны. Часткова журналісты займаліся гэтым самі, а часткова — пад заказ штаба Клінтан. Эфект ад такога прамывання мазгоў апынуўся непрадказальным для яго аўтараў: чым больш «пясочылі» Трампа, тым больш магнат здаваўся блізкім да простых людзей. Да канца не зразумела, чым думалі паліттэхнолагі Клінтан? Прымаючы пад увагу, што рэйтынг Трампа за ўвесь час кампаніі заставаўся дастаткова высокім, можна было задумацца: наколькі эфектыўная крайняя дэманізацыя яго ў прэсе?

Як бачым, ніякай асаблівай містыкі ў поспеху Трампа няма. Спрацавала арыентаваная на ахвяраў цяперашняга крызісу, якія былі лакалізаваныя ў шэрагу дэпрэсіўных рэгіёнаў, даволі прымітыўная папулісцкая рыторыка. Дзякуючы такой прапагандзе ўдалося перацягнуць на бок рэспубліканцаў шэраг учорашніх «дэмакратычных» штатаў.

Містыка — гэта, хутчэй, тое, чым збіраецца заняцца новы лідар самай вялікай краіны ў свеце. На гэты конт — поўная мазаіка меркаванняў і тэорый. Ад тэзіса, што ўсё застанецца па-старому, аж да таго, што Трэцяя сусветная непазбежная.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Міхаіл Саакашвілі



Цяпер ужо былы губернатар Адэскай вобласці падаў у адстаўку, матывуючы свой крок пратэстам супраць карупцыі, якая ахапіла ўсю ўкраінскую ўладу. Дасталася ў яго выступе і Парашэнку, якога ён параўнаў з Януковічам.

Дэмарш Саакашвілі адзінадушна разглядаюць як пачатак новага этапу ў яго палітычнай біяграфіі, які на самай справе трэба было чакаць. Саакашвілі не змог знайсці кансенсусу з адэскімі элітамі і, як следства, асаблівымі поспехамі ў Адэсе ганарыцца не можа. У яго, пэўна, была думка вярнуцца ў Грузію ў выпадку перамогі сваёй партыі «Адзіны нацыянальны рух», аднак «нацыяналы» прайгралі. Заставалася толькі чакаць адстаўкі або гуляць на апярэджанне. Пакінуўшы пасаду губернатара, Саакашвілі, хутчэй за ўсё, узначаліць свой партыйны праект, вакол якога можа аб'яднацца частка актывістаў Майдана.

Нягледзячы на тое, што былы губернатар Адэсы ўсю віну за правалы ў краіне вешае на Парашэнку, апошнія крокі Саакашвілі могуць быць карысныя ўкраінскаму прэзідэнту. У тым жа апазіцыйным полі, што і Саакашвілі, гуляе Юлія Цімашэнка. Вайна паміж імі можа дапамагчы Парашэнку застацца на другі прэзідэнцкі тэрмін. Таксама цікава, што ўкраінскае грамадства дастаткова абыякава адрэагавала на тое, што прэзідэнта адкрыта называюць рабаўніком і карупцыянерам. Тое, што соцыум стаў менш адчувальным да такога кшталту сенсацый — гэта, хутчэй, поспех Украіны, якая вельмі часта была ахвярай дзікага папулізму.

### Нарэндра Модзі



Прэм'ер-міністр Індыі паўтарыў фокус савецкага прэм'ера Паўлава, рашэннем якога ў студзені 1991-га быў нечакана спынены прыём да плацяжоў грошай вартасцю 50 і 100 рублёў узору 1961 года. Старыя купюры можна было абмяняць толькі на працягу трох дзён, і ў памеры не больш за 1000 рублёў.

Увечары 8 лістапада Модзі з'явіўся на экранах індыйскага тэлебачання, каб абвясціць па-за законам купюры наміналам у 500 (8 долараў) і 1000 (15 долараў) рупій. Па словах прэм'ера, гэты крок зроблены ў мэтах барацьбы з ценявой эканомікай і фінансаваннем тэрарызму. Таксама, па яго словах, гэтымі банкнотамі найбольш часта даюць хабары. На думку экспертаў, дзякуючы «паўлаўскай рэформе па-індыйску», эканоміка Індыі будзе на нейкі час паралізаваная. Забароненыя грошы — найбольш распаўсюджаныя купюры ў Індыі (каля 26 працэнтаў усіх купюр, што ходзяць па краіне). Акрамя таго, ценявы сектар вельмі важны для жыцця Індыі. Фінансісты ацэньваюць яго ў 20–27% ВУП.

Абмен выведзеных з абарачэння купюр на новыя купюры па 500 і 2000 рупій пачнецца 10 лістапада, а памяняць можна будзе толькі абмежаваную суму, прычым адзін раз. Пакуль цяжка ацаніць, колькі людзей сталі жабракамі дзякуючы Модзі, аднак незадаволенасць у індыйскіх сацыяльных сетках папросту жудасная.

### Хорст Зеехофер



Лідар баварскага Хрысціянска-сацыяльнага саюза ў мінулую суботу правёў свой партыйны сход, які можна лічыць гістарычным. На сходзе не было старшыні партнёрскай партыі — Хрысціянска-дэмакратычнага саюза, з якім баварцы заўжды ходзяць на выбары. Старшыню Ангелу Меркель вырашылі ў Мюнхен не запрашаць, бо яе міграцыйная палітыка вельмі непапулярная ў Баварыі.

Праўда, адсутнасць запрашэння ад Зеехофера — не самая кепская навіна для Меркель. Раней баварцамі разглядаўся варыянт ісці на парламенцкія выбары наступнага года асобна ад ХДС. Тое, што канфрантацыя паміж партнёрскімі партыямі не такая моцная, як раней, шмат хто тлумачыць новымі выклікамі. Усё часцей кажуць пра тое, што па выніках парламенцкіх выбараў да ўлады ў Берліне можа прыйсці левая кааліцыя — эсдэкі, «Левыя» і «Зялёныя». Свае сілы левыя паспрабуюць прыкладна праз тры месяцы, калі Бундэстаг будзе абіраць прэзідэнта краіны.

Кажуць, што левыя маюць намер агульнымі сіламі дамагчыся абрання на пасаду цяперашняга дырэктара МЗС сацыял-дэмакрата Франка-Вальтэра Штайнмаера. Поспех Штайнмаера для выбаршчыкаў можа стаць сімвалічным сігналам пра змену ўраду.

# Самуіл Агурскі — кравец, камісар, гісторык

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Самуіл Хаімавіч Агурскі — вельмі супярэчлівая асоба ў айчыннай гісторыі. Яго жыццё — сведчанне рэалізацыі імкнення дасягнуць вышынь сацыяльнай лесвіцы. І яскравы прыклад падзення з гэтых вяршынь.**

## Кравец з беднай сям'і

Самуіл нарадзіўся 29 красавіка 1884 года ў Гродна ў беднай яўрэйскай сям'і былога салдата царскай арміі, які 25 гадоў праслужыў у войску, а па вяртанні да канца жыцця працаваў чорнарабочым на тытунёвай фабрыцы Шарашэўскага ў Гродне. Самуіл з 12 гадоў пачаў зарабляць на ўласны кавалак хлеба цяжкай працай. Спачатку ў вяровачнай майстэрні, дзе па 15–16 гадзін на суткі круціў кола, за што атрымоўваў па 50 капеек за дзень працы. Затым ваданосам на саляным заводзе, чорнарабочым на скураным заводзе і падмайстрам маляра. У 18 гадоў Самуіл уладкаваўся на швейную фабрыку краўцом, дзе далучыўся да яўрэйскага сацыял-дэмакратычнага саюза і стаў сябрам Бунду.

У 1902 годзе яго апанавалі ідэі рэвалюцыйнай барацьбы. Самуіл прыняў актыўны ўдзел у некалькіх выступленнях у Гродне ды суседняй Сувалкаўскай губерні. Гэта не магло не прыцягнуць увагу царскай паліцыі. Агурскі вымушаны быў адправіцца ў эміграцыю: спачатку ў Англію, а на наступны — 1906 — год ён перабраўся ў ЗША, дзе працаваў краўцом.

## На эміграцыі

Агурскі жыў у асноўным у Чыкага. У вольны ад працы час пісаў артыкулы для яўрэйскіх сацыялістычных газет. Тут ях пазнаёміўся з лідарамі арганізацыі «Індустрыяльныя працоўныя свету» амерыканцамі Уільямам Хейвудам (пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі эміграваў у СССР і быў пахаваны ў крамлёўскай сцяне) і кіраўніком сацыялістычнай партыі Юджынам Дэбсам. Разам з імі Самуіл удзельнічаў у анархісцкім і рэвалюцыйным руху, а ў 1915 годзе ў якасці садырэктара арганізаваў так званы «Чыкагскі працоўны інстытут» — першы рэвалюцыйны інстытут для навучання эмігрантаў-працоўных з Усходняй Еўропы.

Пасля Кастрычніцкага перавароту 1917 года многія навучэнцы інстытута занялі кіруючыя пасады ў маладой савецкай дзяржаве. Сярод іх у першых шэрагах быў сам Агурскі, невядомы карэспандэнт амерыканскіх яўрэйскіх газет, які пасля Лютаўскай рэвалюцыі, у маі 1917 года, вярнуўся на тэрыторыю былой Расійскай



> **Агурскі па даручэнні Леніна двойчы наведваў ЗША, удзельнічаў у стварэнні кампартыі ЗША, збіраў сродкі ў падтрымку Савецкай Расіі**

імперыі. А пасля захопу ўлады бальшавікамі ў лістападзе зрабіў даволі паспяховую кар'еру.

## У імя рэвалюцыі

Калі пачалася Кастрычніцкая рэвалюцыя, Агурскі ўступіў у шэрагі Чырвонай гвардыі, так ні разу і не прыняўшы ўдзел у баявых дзеяннях, але галоўнае — прысутнічаў на пасяджэнні Петраградскага савета 8 лістапада.

У снежні 1917 года ён атрымаў прапанову выдаваць у Петраградзе яўрэйскую савецкую газету для прапаганды ідэй бальшавізму ў асяродку працоўных. Ленін не шкадаваў на гэта сродкаў.

Пазней сам Агурскі адзначаў: «Мы прынялі прапанову, неадкладна прыступілі да працы і хацелі ажыццявіць гэты план. Але гэта была адна з цяжэйшых задач. Праўда, грошай было дастаткова — у першы раз у гісторыі яўрэйскага сацыялістычнага руху грошы не адыгрывалі ролі пры стварэнні газеты».

Але праблемай з'яўлялася тое, што большасць яўрэйскай інтэлігенцыі не жадала падтрымліваць бальшавікоў, і сабе ў памагатыя Агурскі знайшоў толькі двух былых палітычных эмігрантаў — А. Кантара, былога сакратара Лонданскага «Яўрэйскага працоўнага фонду», і вядомага лонданскага анархіста А. Шапіру.

У ліпені 1918 года Агурскі разам са знакамітым амерыканскім рэвалюцыянерам, журналістам-сацыялістам Альбертам Рысам Вільямсам (1883–1962) арганізаваў І інтэрнацыянальны атрад Чырвонай Арміі, для якога змог прыцягнуць фінансавую дапамогу з ЗША. Адначасова ён уступіў у партыю бальшавікоў і пачаў працу ў Народным камісарыяце па справах нацыянальнасцей пад кіраўніцтвам Сталіна.

Агурскі шматразова сустракаўся з Леніным. Адна з такіх сустрэч у лютым 1918 года Агурскага і загадчыка амерыканскага саюза краўцоў Шлезінгера патрапіла нават на старонкі газеты «Праўда».

## Перацягнуць яўрэйскіх працоўных

Падчас грамадзянскай вайны галоўнай задачай Агурскага было перацягванне на бок бальшавікоў разнастайных яўрэйскіх арганізацый. 2 снежня 1918 года ён прыбыў у вызвалены ад «белых» Магілёў, дзе ўдзельнічаў у шэрагу дыскусій наконт стаўлення яўрэйскіх рабочых да «задач рэвалюцыі». У выніку, «у суботу, 7 снежня 1918 года, мы склікалі вялікі сход, на якім размаўлялі аб ролі яўрэйскіх працоўных у Кастрычніцкай рэвалюцыі. У той жа дзень адбыўся другі сход, на якім была арганізавана яўрэйская секцыя і было пастаноўлена заснаваць Яўрэйскі камісарыят».

Агурскі атрымаў новае прызначэнне — камісар па яўрэйскіх справах Віцебскай губерні, у якой выдаваў газету на ідыш «Дэр фрайер арбэтэр» (1918–1919). Ён суправаджаў у 1919 годзе Міхаіла Калініна ў яго паездцы па Беларусі на цягніку «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Прызнаннем дзейнасці Агурскага стаў яго ўдзел у якасці дэлегата ў VIII з'ездзе партыі бальшавікоў.

Але асноўным у дзейнасці Агурскага заставалася задача перацягнуць на бок партыі шараговых яўрэйскіх працоўных і садзейнічаць выхаванню іх у рэчышчы афіцыйнай савецкай ідэалогіі. Для гэтага ён у чэрвені 1919 года разам са Сталіным падпісаў дэкрэт пра закрыццё Цэнтральнага бюро яўрэйскіх абшчын, вынікам чаго стала канфіскацыя маёмасці яўрэяў. У дадатак Агурскі актыўна выступіў супраць традыцыйнай рэлігіі яўрэяў — іудаізму і прапагандаваў замену старажытнаяўрэйскай мовы (іўрыта) больш маладой — ідышам.

Ва ўсходняй Беларусі разгарнуліся суды супраць равінаў і разнікаў, якія праводзіліся паралельна ў некалькіх гарадах. У друку асабліва асвятляўся так званы працэс па справе «Трэста разнікаў», які пачаўся ў Мінску 28 лютага 1925 года. Яго мэтаю была дыскрэдытацыя выкарыстання кашэрнай ежы. Разглядалася судовая справа аб забойстве мінскімі разнікамі свайго віцебскага калегі. На судовым працэсе сярод выступоўцаў быў і Самуіл Агурскі, які казаў: «На лаве падсудных сядзяць не шараговыя злачынцы, а прадстаўнікі тых, хто на працягу соцень гадоў у імя рэлігія смактаў кроў яўрэйскага народа». Як пазней высветлілася, ніякага забойства насамрэч не было. Справа была з самага пачатку сфальсіфікавана, аднак трое разнікаў атрымалі рэальныя тэрміны, а ў прэсе праводзілася прапагандысцкая кампанія.

У красавіку-маі 1921 года пэўны час Агурскі быў супрацоўнікам Народнага камісарыята працы ў якасці ўпаўнаважанага па аддзелу іміграцыі па арганізацыі кваліфікаваных груп і асобных вытворчасцей.

У пачатку 1920-х гадоў Агурскі па даручэнні Леніна двойчы наведваў ЗША, удзельнічаў у стварэнні кампартыі ЗША, пад выглядам дапамогі галадаючым Паволжа збіраў сродкі ў падтрымку Савецкай Расіі. Але пасля смерці Леніна ў 1924 годзе, на пахаванні якога прысутнічаў і Агурскі, яго палітычнае ўзыходжанне завяршылася. Ён змяніў сферу ўласнай дзейнасці, перакваліфікаваўся ў гісторыка і перабраўся на сталае жыхарства ў БССР, дзе дасягнуў вышынь навуковай кар'еры.

## З камісара ў гісторыкі

У 1924–1929 гадах Агурскі выконваў абавязкі загадчыка Гістпартам пры ЦК КП(б)Б, намесніка дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, а з 1934 па 1938 гады Агурскі быў ужо дырэктарам інстытута гісторыі партыі пры КП КП(б)Б, адначасова будучы дырэктарам інстытута гісторыі АН БССР і дырэктарам Музея Рэвалюцыі БССР.

У першыя гады пасля вяртання ў Беларусь Агурскі рэдагаваў зборнікі матэрыялаў «1905 год в Белоруссии» (1926), «Октябрь в Белоруссии» (1927) і напісаў манаграфію «Еврейский рабочий в коммунистическом движении (1917–1921)». Адначасова для Агурскага становіцца непрымальнай тая канцэпцыя гісторыі БССР, якую выбудоўвалі

> Агурскі быў арыштаваны і сасланы ў Казахстан на 5 гадоў. Але ссылка зацягнулася

ў рэспубліцы прадстаўнікі «буржуазных нацыяналістаў» з іх імкненнем да палітыкі беларусізацыі.

Калі для Агурскага сталі відавочнымі тыя змены ў нацыянальным пытанні, якія адбываліся ў СССР напярэдадні Вялікага пералому, ён адважыўся на першую крытыку ў дадзеным пытанні, што знайшло адлюстраванне ў яго працы ў 1928 годзе — «Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863–1917)».

Адной з кропак уласнай крытыкі ён абраў паўстанне 1863–1864 гадоў і яго правадыра Кастуся Каліноўскага, такім чынам рыхтуючы наступ на прэзідэнта Акадэміі Навук Усевалада Ігнатоўскага (1881–1931).

Агурскі назваў паўстанне 1863 года «феадальна-рэакцыйным», а газету «Мужыцкая праўда» — дакументам «польскага нацыяналістычнага, пранікнутага рымска-ўніяцкім рэлігійным уплывам». На думку Агурскага, яе аўтарамі з'яўляліся В. Урублеўскі і Ф. Тамашэўскі. Каліноўскі ж быў названы «міфічным героем».

У 1929 годзе на форуме марксісцкіх навукоўцаў і XII з'ездзе КП(б)Б ён выступіў з адкрытай крытыкай яшчэ на той час неапублікаванай кнігі Ігнатоўскага пра паўстанне 1863 года. Пазіцыя Агурскага атрымала падмацаванне з інстытута Леніна, куды звярнуўся сакратар ЦК Беларусі Гамарнік з прапановай даць заключэнне пра дзейнасць Агурскага: «Таварыш Агурскі вядзе правільную партыйную лінію па барацьбе з ідэалізацыяй дробнабуржуазных нацыяналістычных партый у поўнай адпаведнасці з партыйнымі дырэктывамі».

Напады Агурскага сталі першым крокам у далейшай справе, разгорнутай супраць Усевалада Ігнатоўскага, якога напрыканцы 1930 года знялі з кіраўніцтва Акадэміяй навук, абвінавацілі ва ўдзеле ў «Саюзе вызвалення Беларусі», а 22 студзеня 1931 года як «нацыянальнага адшчапенца» выключылі з партыі. 4 лютага 1931 года Ігнатоўскі застрэліўся.

Пазіцыя Агурскага ў дачыненні да паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве стала афіцыйнай і была замацавана ў рэзалюцыі кастрычніцкага пленума ЦК КП(б)Б 1930 года ў раздзеле пра нацыянальнае пытанне.

Выбудаваная за кошт наступу на беларускіх «буржуазных нацыяналістаў», кар'ера Агурскага хутка развівалася. У 1934 годзе яго прызначылі на пасаду дырэктара Інстытута яўрэйскай пралетарскай культуры (закрыты ў 1935 годзе), і намесніка дырэктара Інстытута нацыянальных меншасцяў АН БССР. Агурскаму была нададзена ступень доктара гістарычных навук без абароны дысертацыі — на падставе друкаваных прац. У 1936 годзе пастановай Прэзідыума АН БССР Агурскі быў зацверджаны членам-карэспандэнтам аддзялення грамадскіх навук АН БССР.

***

Праз два гады, 4 сакавіка 1938 года, Агурскі быў арыштаваны па абвінавачанні ў прыналежнасці да яўрэйскай фашысцкай арганізацыі і шкодніцкай дзейнасці ў Акадэміі навук Беларусі. Па пастанове Асобага пасяджэння пры НКУС СССР ад 15 жніўня 1939 года па артыкулах 68 і 76 КК БССР ён быў сасланы ў Казахстан тэрмінам на 5 гадоў. Але ссылка зацягнулася надаўжэй.

Самуіл Агурскі памёр 19 жніўня 1947 года ў Паўладары ад кровазліцця ў мозг. 7 красавіка 1956 года ён быў рэабілітаваны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

# Ён быў шасцідзясятнікам, любіў праўду і людзей

Андрэй РАСІНСКІ

**Дваццаць гадоў таму, 5 лістапада 1996 года (па іншых звестках, 31 кастрычніка), не стала Віктара Турава. Яго стужку «Праз могілкі» ЮНЕСКА ўключыла ў лік найлепшых 100 фільмаў свету. Пра свайго настаўніка, класіка беларускага кіно ўспамінае рэжысёр Андрэй Кудзіненка.**




***— Як і калі вы ўпершыню сустрэліся з Віктарам Туравым?***

— На ўступных іспытах. Гэта адбывалася на сумоўі. Да таго часу я ўжо ведаў яго фільмы, «Людзі на балоце» бачыў у дзяцінстве і лічыў гэты фільм тыповым беларускім кіно. А потым ужо я пагледзеў ранейшыя «Я родам з дзяцінства», «Праз могілкі» ці познія яго фільмы — а гэта зусім іншы Тураў.

Тураў задаў мне пытанне пра паэзію, якія вершы мне падабаюцца. Я адказаў, што ёсць паэзія кінематаграфічная, ёсць гукападражальная, і тая і другая — цудоўныя, зачытаў Цвятаеву і Блока, як кінематаграфічнага паэта. Яму вельмі спадабаўся прыклад: «Город в красные пределы / Мёртвый лик свой обратил...». Тураў вельмі любіў паэзію, яго гэта зачапіла.

Упершыню ў жыцці я ўбачыў мэтра. Як паводзяць сябе з ім іншыя людзі, як ён сябе вядзе. Ён быў вельмі свабодным. Ён любіў нефармальныя гутаркі, запрашаў да сябе дадому, на дні нараджэння, прыходзіў да нас на вечарынкі пасля іспытаў, сядзеў нейкі час. Вёў сябе даволі дэмакратычна і не было ніякага таталітарнага кіравання, што вось ёсць майстар, а ёсць — не майстар.

***— Як ён праводзіў заняткі?***

— Заняткі былі семінарскія. Ён быў, як цяпер кажуць, фасілітатар. У асноўным былі працы па драматургіі, мы зачытвалі нашы ідэі. Абмяркоўвалі. Ён быў вельмі засмучаны, што ў той час у кіно было шмат чарнухі, і яму вельмі падабалася, калі прапаноўвалі камедыі. Мае працы яму падабаліся, бо там было шмат камедыйных абсурдаў.

Падабаліся яму «Бесы» паводле Дастаеўскага, мы рабілі ўрыўкі. Я выконваў на рэпетыцыях ролю Пятра Верхавенскага. А аднойчы ён запатрабаваў знізіць мне адзнаку на адзін бал, калі яму здалося, што я ў нейкі момант злавіў кураж і стаў падыгрываць публіцы — яму падалося, што гэта нарцысізм, якога не павінна быць у акцёра. І ён цалкам мае рацыю. Ён не любіў нарцысізм. Ані на экране, ані на сцэне.

***— Ён любіў праўду...***

— Такую, як яму здавалася. Калі пачаўся канфлікт з фільмам «Шляхціч Завальня», ён проста хлопнуў дзвярыма. Ён быў вельмі імпульсіўны чалавек, прымаў гарачыя рашэнні. Ён жыў інтуіцыяй і пачуццямі. Таксама было і з Акадэміяй мастацтва, калі яму не далі прафесара. Яны б далі ў той вечар, але пачалі яго крыху троліць. Пасля фразы: «Ну, у яго ж маскоўская школа, як ён можа быць прафесарам нашай нацыянальнай Акадэміі?», Тураў грукнуў па стале і сказаў: «У мяне магілёўская школа!» — і сышоў.

Мы былі кіношнікамі, а мастакі нас не вельмі любілі. І ў яго быў канфлікт з Акадэміяй. Але вельмі добра, што ён вывеў нас і з-пад «Беларусьфільма», мы не былі «беларусьфільмаўскімі» — у нас быў свой рахунак, мы не прасілі грошай у кінастудыі, і крыху мы былі і ад Акадэміі аўтаномныя, таму што мы займаліся на кінастудыі, у нас і асобныя педагогі былі. Гэта ён сам прабіў гэтыя ўмовы.



**Галоўнае ў ім было — чалавечнасць. Цікавасць да чалавечага, да чалавечых праяваў у розных абставінах**



Віктар Тураў (першы ў другім шэрагу злева). Магілёў, 1952 г.

**Даведка:**

Віктар Цімафеевіч Тураў нарадзіўся 25 кастрычніка 1936 года ў Магілёве. Яго бацьку ў час Вялікай Айчыннай вайны расстралялі як партызана, сам Віктар разам з маці быў вязнем «сямейнага» канцлагера на Рэйне.

За 37 гадоў творчай дзейнасці кінарэжысёр і сцэнарыст стварыў больш за 20 кінакарцін. Яго фільм «Я родам з дзяцінства», паводле апытання беларускіх крытыкаў, прызнаны найлепшым фільмам, створаным за ўсю гісторыю айчыннага кіно.

Этапнымі работамі Віктара Турава былі экранізацыі «Палескай хронікі» Івана Мележа «Людзі на балоце» (1982), «Подых навальніцы» (1983), тэлефільм паводле апавядання Івана Тургенева «Жыццё і смерць двараніна Чартапханава». Сярод іншых фільмаў, прысвечаных тэме вайны і гісторыі, — «Я родам з дзяцінства» (1966), «Сыны ідуць у бой» (1969), «Пераправа» (1987), «Чорны бусел» (1993), «Шляхціц Завальня, ці Беларусь у фантастычных расказах» (1994).



Дыпламант кінафестывалю рэспублік Прыбалтыкі, Беларусі і Малдавіі (1965, дыплом II ступені і прыз рэжысёру) за лепшы дэбют, фільм «Праз могілкі». Лаўрэат прэміі кінафестывалю рэспублік Прыбалтыкі, Беларусі і Малдавіі (1967) за лепшую рэжысёрскую працу, фільм «Я родам з дзяцінства». Дыпламант Усесаюзнага кінафестывалю (1977, спецыяльны дыплом) за рэжысуру, фільм «Нядзельная ноч». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1984) за фільм «Людзі на балоце». Лаўрэат прэміі Міністэрства абароны ПНР (1989) за фільм «Пераправа», Прэміі Беларускай праваслаўнай царквы (1989) за фільм «Высокая кроў». Узнагароджаны прызам міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў «Залаты Віцязь» (1993) за рэжысуру, фільм «Чорны бусел».

У сувязі са 100-годдзем кінематаграфіі (1994) фільм «Праз могілкі» рашэннем ЮНЕСКА быў унесены ў спіс 100 найбольш значных фільмаў свету. Віктар Тураў уключаны ЮНЕСКА (1995) у лік 50 кінематаграфістаў свету, з якіх складаўся Ганаровы камітэт па святкаванні 100-годдзя кінематаграфіі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996) за вялікі ўклад у кінематаграфію.

***— Што найбольш здзівіла, калі ён працаваў з вамі?***

— Мне найбольш запала... Быў наш педагог-аператар, цяпер ужо нябожчык, з уедлівым, калючым характарам. І ён любіў так пакпіць са студэнтаў, з іх неспрактыкаванасці. Вельмі не спадабаўся яму неяк мой фільм «Жарцік». «Лухта нейкая!» — вырашыў. А Турава гэта вывела з сябе, і ён сказаў: «Як ты можаш, Ігар! Як ты можаш так гаварыць! Гісторыя ж пра тое, як чалавек ад слова памёр! Разумееш, што такое: чалавеку можаш сказаць, а ён памрэ!» Ад гэтага наш выкладчык замоўк, ажно схамянуўся. Ён нават не ўяўляў, што ягоны камедыйны тон выкліча такую сур'ёзную гутарку. Можа, Тураў ужо даведаўся, што ён хворы, ён памёр праз тры месяцы.

Гэта характарызуе пакаленне шасцідзясятнікаў. У іх не было цынізму, і, нават, можа, самаіроніі. Яны да ўсяго вельмі шчыра ставіліся. У іх была вера і чысціня веры. І потым сямідзясятнікі з шасцідзясятнікаў здзекаваліся. Шасцідзясятнікі былі для іх людзі прыбамбашаныя.

Вось яны — лірычнае пакаленне, якое верыць, у іх быў лірызм і шчырасць адлігі.

***— Якія былі асноўныя якасці Віктара Турава?***

— Галоўнае ў ім было — чалавечнасць. Цікавасць да чалавечага, да чалавечых праяваў у розных жыццёвых абставінах. Усе гісторыі, што ён расказваў, былі звязаныя не з пафасам, але пабытавымі праявамі чалавечага. Ён расказваў, як хавалі Даўжэнку [НЧ — настаўніка Турава], завалілі труну вянкамі і раптам пачулі нейкія гукі плачу. Быццам з неба. І быў містычны шок, а высветлілася, што маленькую матулю Даўжэнкі завалілі гэтымі кветкамі і не заўважылі. А яна і сама гэтага не заўважыла. Стаяла дамавіна ў кветках — і яна плакала. Ён любіў паўтараць фразу Даўжэнкі, што ў лужынах адлюстроўваюцца зоркі. Нават у брудзе ёсць праявы боскага.

Ён быў шасцідзясятнікам, а гэта цяга да гуманізму, да праяў чалавечага ў экстрэмальных умовах.

***— Якое пасланне, на тваю думку, пакінуў Тураў для мастакоў і для іншых людзей?***

— Для мастакоў — пасланне рабіць свае кіно. Ён нас спрабаваў заахвоціць, запрашаў людзей адмысловых, з якімі працаваў. Ён казаў, што трэба здымаць пра свае, знаходзіць рэчы ў сваім жыцці — і тады мы будзем цікавымі.

У яго была любоў да чалавека, любоў да маленькага чалавека, у малым ён мог адшукаць вялікае.

**Фота з архіву Алены Туравай**

# Курэйчык прэзентаваў «PARTY-zan фільм»

Алег ГРУШЭЦКІ

**Каманда беларускага творчага аб’яднання «Bez Buslou Arts» прадставіла ў Мінску новы фільм рэжысёра Андрэя Курэйчыка і прадзюсара Дзмітрыя Фрыгі. Стужка мае папярэднюю назву «PARTY-zan фільм».**

Прэзентацыя адбылася 6 лістапада ў праграме кінафестывалю «Лістапад–2016» у рамках Індустрыяльнай платформы «Дзень беларускіх ініцыятыў» і прайшла ў галерэі TUT.BY. Публіцы былі паказаныя тызер-трэйлер і 15-хвілінная вытрымка з фільма, якая раскрывае сюжэт.

«PARTY-zan фільм» — першая незалежная беларуская стужка, якая будзе паказана на шырокім экране, і адзіны беларускі поўнаметражны мастацкі фільм, які сёлета выходзіць у шырокі пракат. «Bez Buslou Arts» даказваюць, што сіла — не ў грошах, а ў ідэях, запале і камандзе. Па словах прадзюсараў, карціна стане сапраўдным канкурэнтам усім расійскім камедыям у навагоднім кінапракаце. Хоць і па сучасных мерках «PARTY-zan фільм» — малабюджэтнае кіно, па завяршэнні працы над фільмам выдаткі на яго складуць 30–40 тысяч долараў.

Новая праца Андрэя Курэйчыка і яго каманды — гэта фільм пра тое, як здымаецца фільм. «PARTY-zan фільм» распавядае пра «беларускую мару» — зарабіць вельмі шмат грошай, і як мага хутчэй. Здымкі стужкі праходзілі сёлета ў жніўні ў Мінску, Брэсце і нават Маскве.

Аўтары фільма падкрэсліваюць, што фільм прызначаны для беларускага рынку, зроблены сіламі беларусаў і пра беларусаў. Беларуская мова гучыць у стужцы хоць і эпізадычна, але часам на героях можна заўважыць цішоткі з нацыянальнымі сімваламі. Галоўныя ролі выканалі маладыя акцёры беларускага тэатра і кіно, чые імёны пакуль не асабліва вядомыя гледачам.

Але, па словах Курэйчыка, іх чакае вялікая будучыня, а «PARTY-zan фільм» адкрывае новых зорак. Першым чынам, гэта выканаўцы галоўных роляў: Аляксандр Тарасаў, Аляксандр Душачкін і Аліса Аўчыннік. Таксама ў кадры мы ўбачым і вядомых беларускіх акцёраў: Эвеліну Сакура, Аляксандра Гусева, Аляксандра Яфрэмава (мал.), Івана Шчатко, Сяргея Шырочына. Ужо традыцыйна ў карціне ад «Bez Buslou Arts» зняліся лідары групы «Neuro Dubel» Аляксандр Кулінковіч і Юры Навумаў.

Андрэй Курэйчык плануе, што новая стужка збярэ ў трох-чатыры разы больш грошай, чым папярэдняя. На сёння вядома, што ў Мінску фільм пакажуць мінімум 4 залі. Па рэгіёнах пакуль вядуцца перамовы, там паказы пройдуць, верагодна, са змяшчэннем у 1,5–2 тыдні.

Аб’яднанне «Bez Buslou Arts» ставяць перад сабой мэту выдаваць па адной поўнаметражнай беларускай карціне ў год. Падчас прэзентацыі сцэнарыст-рэжысёр Андрэй Курэйчык выказаўся, што ўсё жыццё ён рабіў навагоднія стужкі, але ўсё — расійскае. І вось нарэшце ён здымае сваё, беларускае.

Ён адзначыў: «Я не жадаю рабіць тут расійскае кіно. Расійскае кіно я раблю ў Расіі. А тут я жадаю рабіць беларускае кіно. І задача простая: каб яно акуплялася на беларускім рынку».

Праз паўтара тыдня будзе прадстаўлены трэйлер да стужкі. А 29 снежня фільм выйдзе ў Мінску (як мінімум — у кінатэатрах «SilverScreen»), пры магчымасці — адначасова і ў Брэсце.

# Легендарны «Знахар» цяпер па-беларуску

Алесь КІРКЕВІЧ

**Месяц польскай літаратуры — ужо традыцыйная восеньская падзея, якую ладзіць амбасада Рэспублікі Польшча і Польскі Інстытут у Мінску. Сёлета месяц пачаўся з прэзентацыі беларускага перакладу рамана Тадэвуша Даленгі-Мастовіча «Знахар».**






Вечарына прайшла ў галерэі «Ў» з удзелам польскіх дыпламатаў, дырэктара Інстытуту Матэвуша Адамскага, перакладчыц, актораў Купалаўскага тэатру. Мадэратарам імпрэзы выступіў паэт і перакладчык Андрэй Хадановіч.

Даленга-Мастовіч і ягоны «Знахар» належаць да рэлікту польска-беларускай літаратуры, добра вядомай у Польшчы, але пакуль не зведанай у нас. І гэта пры тым, што сам аўтар нарадзіўся ў Беларусі ды пісаў творы на беларускім матэрыяле: як Міцкевіч, Ажэшка альбо Пясецкі.

Тадэвуш Даленга-Мастовіч нарадзіўся ў фальварку Акунёва недалёка ад Глыбокага ў 1898 годзе. Вучыўся ў Вільні ды Кіеве, пры гэтым адначасна належаў да польскага падполля, якое марыла пра аднаўленне Рэчы Паспалітай. Калі Імперыя пачала развальвацца на часткі, у 1917 годзе Мастовіч паехаў у Варшаву, каб далучыцца да польскага войска і змагацца з бальшавікамі цягам Польска-савецкай вайны.

Цікава пры гэтым, што Мастовіч быў палітычным апанентам Пілсудскага. Будучы журналістам штодзённіка «Rzecz Pospolita», Мастовіч крытыкаваў маршалка пры кожнай нагодзе, што часам не праходзіла незаўважна... У 1927 годзе ён быў выкрадзены і вывезены невядомымі асобамі ў лес ды моцна збіты — здароўе давялося аднаўляць у варшаўскім шпіталі. Гэты эпізод пасля будзе апісаны ў «Знахары».

Легендай стала фантастычная працаздольнасць Мастовіча як пісьменніка і публіцыста. Кажуць, што кожны дзень Тадэвуш пачынаў а пятай ранку кілішкам гарэлкі. Далей — браўся за пісанне. І толькі а 9-й ішоў снедаць.

У перыяд з 1931 па 1939 было надрукавана ажно 17(!) раманаў Даленгі-Мастовіча, то бок прыкладна па два на год. Найбольш вядомымі сталі «Знахар», «Прафесар Вільчур», «Тры сэрцы». Яшчэ пры жыцці яго творы пачалі экранізаваць, «Знахар» таксама выйшаў у пракат. Час плённай працы і вядомасці па ўсім краі, аднак, доўжыўся няшмат...

У 1939 годзе з пачаткам вайны Мастовіча паклікалі ў войска. Служыць давялося на румынска-польскай мяжы ў гарадку Куты. Там жа ён і загінуў, як ліцьчыца, падчас сутыкнення з атрадам савецкіх войскаў.

Дагэтуль малавядомай застаецца гісторыя прататыпа «Знахара», жыхара Глыбокага Алега Нагушчы. Як сцвярджаюць мясцовыя краязнаўцы, гэта быў чалавек надзвычайных талентаў у медыцыне, да дому якога хворых везлі падводамі ды фурманкамі. Пры гэтым, сам Нагушча быў інвалідам ды насіў пратэз на адной назе.

Невядома як, але ў 1941-м Нагушча апынуўся сярод вязняў Глыбоцкай турмы. З пачаткам вайны супрацоўнікі НКУС мелі загад аб ліквідацыі ўсіх зняволеных ды пагналі людзей пешкі на Улу. Але па дарозе караван быў атакаваны нямецкімі самалётамі: пашыхтаваную калону прынялі за адступаючых вайскоўцаў... Там акурат і загінуў народны лекар Алег Нагушча.

Яшчэ ў 1998 да стагоддзя Даленгі-Мастовіча краязнаўцы з Глыбокага звярнуліся да гарадскіх уладаў з прапановай паставіць знакамітаму земляку бюст. З добрай задумы, на жаль, нічога не атрымалася. Затое, дзякуючы высілкам польскай амбасады на доме, які зараз адносіцца да вуліцы Савецкай, з’явілася мемарыяльная шыльда.

Пераклад «Знахара» на беларускую мову — яшчэ адзін крок да таго, каб узгадаць ды вярнуць Даленгу-Мастовіча ягоным землякам ды ўсім беларусам.

---

КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 | Лицевой счет: Код 739
УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Кассир — Всего ______

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанаваць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём).

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл., код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 722 61 69, Міхась
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда; (8029) 666 45 29, Анатоль
**Гомель:** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

З **1 студзеня 2016** года кошт аднаго месяца падпіскі — **3 рублі 20** капеек, **квартала — 9 рублёў.**

**ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА РАЗУМЕННЕ І ПАДТРЫМКУ!**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1099

Падпісана да друку 11.11.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.